

# Наша Слова

Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 3 (319) 16 — 22 студзеня 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў



КАЛЯДА Ў "МАКДОНАЛЬДС" ЗАВІТАЛА... Стар.2.

АЛЕСЬ АРКУШ: АД "ПАРУСА" ДА "КАЛОСЬСЯ" Стар.3.

СЛАВЯНСКАЕ АДЗІНСТВА Ў Н'Ю-ЁРКСКІМ ПАСТАРУНКУ Стар.4.

TV - праграма Стар.7.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі заснавана новая прэмія — "За духоўнае адраджэнне".** Дакладней, пяць штогадовых прэмій, якія будуць прысуджацца, паводле ўказа, "За выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай галіне, накіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, якія садзейнічаюць усталяванню духоўных каштоўнасцяў, ідэй дружбы і брацтва паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў і верывызнанняў". Першымі лаўрэатамі прэміі "За духоўнае адраджэнне" сталі народны артыст СССР В. Ройда, настаяцель храма ў гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасце" І. Карасталёў, міласэрная сястра В. Плюшчава, удзельнікі вакальнага ансамбля "Чысты голас". Але добра б яшчэ, каб была заснаваная і прэмія кшталту "За адраджэнне беларушчыны"!

○ ***На граніцы Віцебскай і Магілёўскай абласцей з Расійскай Федэрацыяй з пачатку гэтага года дзейнічае пагранічны рэжым.*** *Ён уведзены расійскім бокам па ўзгадненні з абласнымі ўладамі і камандаваннем Пагранічных войскаў Беларусі. Гэтая мера з'яўляецца вымушанай і выклікана рэзкім павелічэннем патоку нелегальных мігрантаў з краін Азіі, Афрыкі і шэрагу дзяржаў былога СССР, што выкарыстоўваюць тэрыторыю Смаленскай вобласці як калідор для выезду ў краіны Заходняй Еўропы.*

○ **За 1996 год мытні нашай краіны перасекла звыш 15 мільёнаў чалавек і 4 мільёны адзінак транспарту.** Акрамя таго, каля 3 тысяч чалавек спрабавалі перайсці граніцу нелегальна. Амаль трэць з іх — "лица кавказской национальности".

○ ***У Гданьску пабывалі прадстаўнікі Гомельскага абласнога фонду "Дапамога дзецям Чарнобыля".*** *Галоўнай мэтай паездкі было вывучэнне магчымасці аздараўлення дзяцей Гомельшчыны на Балтыйскім узбярэжжы Польшчы.*

○ **Англійскім выдавецтвам "Фантэн прэс" выпушчаны зборнік лепшых фотаздымкаў мінулага года.** На гэты прэстыжны конкурс было прадстаўлена каля 10 тысяч здымкаў. Лепшымі прызнаныя 200, аўтары якіх жывуць у 28 краінах свету. У зборнік трапіла і работа магілёўскага фатографа Мірона Шчудро "У чаканні сонца". Віншуем!

○ ***Выдавецтву "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі споўнілася 30 гадоў. Віншуем!***

○ **З пачатку гэтага года Нацыянальны банк Беларусі ўвёў у зварот залатыя, срэбныя і медна-нікелевыя манеты.** Выпуск "медзякоў" прысвечаны 50-годдзю з дня заснавання ААН і беларускім алімпійцам. Манеты з'яўляюцца законным плацёжным сродкам, але, відаць, хутчэй яны раз лічацца на калекцыянераў.

○ ***Выйшаў у свет новы часопіс "Всемирная литература",*** *заснавальнікамі якога сталі Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку і выдавецтва "Мастацкая літаратура". Часопіс павінен стаць папулярызатарам лепшых набыткаў сусветнай літаратуры як класічнай, так і сучаснай. Але чаму ён на расійскай мове?! Канкуруючы з маскоўскай "Иностранной литературой"? Дарэмная спроба. І дарагая.*

**Падрыхтаваў В. Ш.**

## Падпісана пагадненне аб сузаснавальніцтве

Адразу пасля калядных "канікулаў", 9 студзеня г.г., сабраліся паўнамоцныя прадстаўнікі грамадскіх непалітычных арганізацый Беларусі, якія ўхвалілі прапанову кіраўніцтва ТБМ аб сумеснай падтрымцы "Нашага слова". Заяву аб сузаснавальніцтве падпісалі ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Г. Сурмач, ад імя Таварыства беларускай школы — А. Лозка, ад імя Беларускай асацыяцыі журналістаў — Ж. Літвіна, ад імя Аб'яднання беларускіх скаўтаў — В. Сугойдзь.

Звяртаем увагу шаноўных чытачоў, што газета будзе больш рэгулярна і разнастайна асвятляць дзейнасць згаданых арганізацый і ўвогуле пашырае свой інфармацыйны дыяпазон. Шаноўныя журналісты, "Наша слова" — адзіная газета ў Беларусі, дзе вы знойдзеце зусім праўдзівую працу. Падтрымлівайце з намі сувязь.

Просім усіх сяброў "Нашага слова" пастаянна паведамляць знаёмым пра змест газеты і ўсялякім садзейнічаць падпісцы на яе.

**Рэдакцыя.**

*З нагоды*

## Сяброўскія віншаванні з Новым годам

Мы ўжо друкавалі віншаванні з Новым годам і калядамі ад нашых сяброў-чытачоў. Але далёка не ўсе, бо некаторыя лісты прыйшлі са спазненнем: пошта таксама святкавала і таму не працавала ці рабіла гэта ўрыўкамі. Ну, цяпер, здаецца, адгулялі. Як заўважыў у тэлепраграме "Времечко" Міхаіл Жванецкі: "Толькі шчаслівая і багатая краіна можа дазволіць сабе столькі адпачываць і гуляць". Гэта сатырык сказаў пра сапраўды багацейшую за нашу краіну Расію. Ну, а мы... Мы па гэтай частцы абагналі і Расію.

А "Нашаму слову" ў новым годзе жадаюць настаўніца Н. П. Канунікава з Гародні, паэтка і кіраўнік Усебеларускага жаночага фонду святой Ефрасінні Полацкай Валянціна Коўтун, наша аўтарка і дарадчыца з Гомеля Л. І. Судзілоўская, якая адначасна прапануе і новыя тэмы для газеты.

"Убачыў фотаздымак супрацоўнікаў рэдакцыі ў апошнім нумары газеты за мінулы год, — напісаў нам ветэран А. І. Юрцэвіч з м. Мёры, — і ў мяне ўмацавалася перакананне, што справа беларускага адраджэння будзе развівацца і надалей, нягледзячы ні на якія цяжкасці: побач са старымі дзеячамі ўбачыў я і добрую поросль маладых моцных дубкоў. Жадаю супрацоўнікам і сябрам "Нашага слова", нягледзячы ні на што, бадзёрага настрою, моцнага здароўя і поспехаў у працы". Ад імя Міжнароднага камітэта беларусістаў і супрацоўнікаў Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны сардэчна павіншаваў сяброў газеты "Наша слова" прэзідэнт МАБ, дырэктар Цэнтра Адам Мальдзіс і вучоны сакратар МАБ Захар Шыбека.

Усім сардэчная падзяка за віншаванні!

*Творчасць нашых чытачоў*

## Балада пра Віллі з Вясеі

*Баразенку Васілю Хведаравічу*

Зімой, калі ноччу ў завею  
Сінічкі замруць пад дахам,  
Хлопец ляціць над Вясеяй,  
Што з'ехаў даўно на Захад.  
Вецер сцяжынамі стылымі  
Блукае ў палях бабылём,  
Назваўся той хлопец Вільямам,  
Што быў для бацькоў Васілём.  
Віллі дзесь стаў мужчынам,  
А потым дзедам сівым,  
І як па гадах, магчыма,  
Цяпер ён ужо не жывы.  
Знайшоў сабе долю і жонку  
Віллі ў далёкім краю,  
Але ў Беларусі звонкай  
Пакінуў, мо', мрою сваю.  
І год мінаў за годам,  
А ён усё сніў адно —  
Суседачкі смех, карагоды,  
Вяргінь залатое руно.  
Паклікаў Віллі аднойчы  
Англійскіх сваіх унукаў  
Сказаў, абдымаючы тройчы:  
Бывайце, я, мусіць, адблукаў.  
А ў дол дзе лягу ў чужыне,  
Там Крыж пастаўце з Пагоняй  
І куст пасадзіце вяргіняў  
З Вясеі, ад родных гоняў.  
І ноч на Каляды ў завею  
Пагоня імчыць у вышынях,  
А з ёю хлопец з Вясеі  
З букетам жоўтых вяргіняў.

**Іна ПІМЕНАВА,**  
**студэнтка БДПУ.**  
*Літаратурная рэдакцыя Э. Я.*

*Культурнае жыццё*

# "САКАВІК" ДАПАМАГАЕ, ВІНШУЕ І ЎСЁ ГЭТА ПА-БЕЛАРУСКУ...

У пасёлку Радашковічы Маладзечанскага раёна на каляднай вечарыне старшыня Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" Марыя Міцкевіч разам з актывісткамі і зычліўцамі сваёй арганізацыі Людмілай Дзіцэвіч і Маяй Кляшторнай перадалі дзецям перасяленцаў з чарнобыльскіх рэгіёнаў Гомельшчыны падарункі, а прадстаўнікам тутэйшай лякарні — медыкаменты і медабсталяванне ад людзей добрай волі Вялікабрытаніі.

Вечарына, якая вылілася ў сапраўднае свята, прайшла ў духу няزмушанай беларускасці: гучала родная мова, звінелі народныя ды аўтарскія песні нацыянальных паэтаў і кампазітараў.

...Сёння мястэчка Радашковічы, што знаходзіцца на паўдарозе паміж Менскам і Маладзечнам, як і ўся наша краіна, перажывае даволі складаныя эканамічныя праблемы. Яшчэ да пілігаўскіх маразоў спыніла сваю дзейнасць тутэйшая цагельня — буйнейшая ў Беларусі і былым СССР. Беспрацоўнымі сталі сотні работнікаў гэтага прадпрыемства. Паводле словаў дырэктара мясцовай школы Анатоля Зыля, пасля зімовых вакацыяў настаўнікі не даліччыліся ў прамерзлых класных пакоях сваіх вучняў. Іх, як потым высветлілася, бацькі-беспрацоўныя, што з'ехаліся ў свой час сюды з многіх рэспублік Савецкага Саюза, а таксама чарнобыльскія перасяленцы адправілі да родзічаў.

Вось чаму дапамога фонду "Сакавік", клопаты яго кіраўніцы Марыі Міцкевіч, што працягвае традыцыю помачы збяднелым людзям, распачатую некалі пасля апошняй вайны незабыўным Якубам Коласам, былі ў Радашковічах як ніколі дарэчы.

Дзіцячыя цацкі, натуральныя сокі і садавіна, слодыч, печыва, кніжкі — усё гэта было ўручана дзеткам Чарнобыля як віншаванне з Калядамі ад мацярок Вялікабрытаніі.

А ўжо сам фонд прывёз у халаднаватую залу Радашковіцкай школы артыстаў народнага ансамбля "Менскі гармонік", якія бацькам і дзецям далі канцэрт, а, лепш сказаць, урок народнай музыкі, фальклору і беларускай мовы.

І гэта — не выпадкова, бо гэта ладзіў фонд (яшчэ раз звяртаю ўвагу на яго асаблівасць) — менавіта "духоўнага і культурнага адраджэння". Акрамя ўсяго іншага, паводле словаў Марыі Міхайлаўны, яе дабрачынная арганізацыя ствараліся з дапамогай нашых суродзічаў, якія жывуць у Вялікабрытаніі (тут першы памочнік і руплівец знакаміты айцец Аляксандр Надсан), Злучаных Штатах і Аўстраліі.

— Наша традыцыя кантактавання з дзецьмі ды іхнімі бацькамі выключна беларуская, нацыянальная, — сказала карэспандэнту "Нашага слова" Марыя Міцкевіч. — Абавязкова пад час нашых сустрэч бываюць артысты з народных ансамбляў. Дзеці ды бацькі павінны адчуць: гэтая сціплая матэрыяльная дапамога ім ідзе ад сэрцаў тых людзей, якія ратуюць Беларусь у літаральным і пераносным сэнсе. Таму абавязковыя беларускія песні, беларускія гульні і, канешне, мова.

— А ці здараюцца згаданай вашай традыцыі нейкія перашкоды, супрацьдзеянне? — спытаўся я ў Марыі Міхайлаўны.

— Трэба зазначыць, што да нашай нацыянальнай завядзёнкі з павагай ставяцца нават цяперашнія ўлады. Праўда, па дробязях іншы раз надараюцца недарэчнасці. Так, у мінулым годзе, калі мы ўручалі гуманітарную помач чарнобыльскім перасяленцам, што атабарыліся ў менскім жылым масіве Малінаўка, мы на падобную вечарыну запрашалі адзін народны ансамбль. Мы сказалі артыстам, што праграма маючага адбыцца канцэрта павінна быць выключна беларускай. Яны нам сказалі: у іх ёсць песні і на іншых мовах, і яны гатовыя такія песні ўключыць у праграму. Але актывісты фонду ўсё-такі гэтых артыстаў папрасілі не парушаць нашае традыцыі: хай іншамоўныя песні выконваюць на іншых канцэртах — мы ж не супраць. А тут — беларушчына, аднароднае моўнае асяроддзе, якое толькі на карысць дзецям. Добрая беларуская песня, беларускі верш павінны запасці ў душу і сэрца беларускаму дзіцяці...

Трэба яшчэ зазначыць, гэтая традыцыя ў актавай зале школы была цалкам захавана. Кіраўнік ансамбля, добры кампазітар, паэт і музыка Іван Раманчук, усе яго артысты — музыкі, танцоры і спевакі паказалі выдатную праграму, цалкам зразумелую і дзецям, і дарослым. На канцэрце прагучалі ажно дзве прэм'еры новых песняў самога спадара Раманчука, якія, сапраўды, маглі задаволіць патрабаванні суровых музычных крытыкаў. А прысутнасць на вечарыне дачкі рэпрэсаванага сталіністамі беларускага паэта Тодара Кляшторнага — Маі Тодараўны, пляменніка Якуба Коласа — радашковіцкага педагога і літаратара Сымона Белага — толькі лішні раз падкрэслівалі наяўнасць народнага, нацыянальнага духу гэтага калядняга свята.

Па-беларуску гаварылі словы ўдзячнасці ў адрас "Сакавіка" намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама Барыс Бароўскі і старшыня гарпасавета мястэчка Радашковічы Мікалай Кахоўскі. Адчувалася, што прадстаўнікі ўлады пастаянна карыстаюцца роднай мовай — так нязмушана і вольна гучала яна ў іхніх вуснах...

А потым разам з вядучай вечарыны, актывісткай не толькі згаданага фонду, але і ТБМ імя Ф. Скарыны Людмілай Дзіцэвіч дзеці вадзілі карагоды каля навагодняй каляднай яліны. Сваё добраславенне гэтаму святу даў і айцец Аляксандр з тамтэйшай праваслаўнай Свята-Ільінскай царквы...

Як гэта добра — падтрымаць у цяперашні час дзіцячае матэрыяльна! Але не менш добра — зрабіць такую падтрымку на-наску, па-беларуску...

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*У газетах*

## Як "ляснулі" 320 млн. долараў...

"Кажуць, што ўсе "хітрыя" і "разумныя" пытанні першага рэферэндуму прыдумаў і запрапанаваў дэпутат расійскай Думы М. Ганчар. Калі б пытанне стаяла толькі пра аб'яднанне Расіі ды Беларусі, то, упэўнены, высуні Лукашэнка на першым, ды і на другім рэферэндуме пытанне аб тэрміновым аб'яднанні з Расіяй — ён бы перамог. Але чамусьці гэтае пытанне не высунулі, хаця на 100 % можна было быць упэўненым, што дэмакратыя ў Беларусі прайграла б. Значыцца, пытанні першага, між іншым, як і другога рэферэндумаў не маглі быць у сапраўдных інтарэсах абедзвюх краінаў.

Колькі часу пайшло на раз'ятраную барацьбу за сімволіку?..

Пасля першага рэферэндуму, пры сустрэчах з грамадзянамі, якія падтрымалі Прэзідэнта, я пытаўся: "Навошта і без усяго гэтага з збяднелай дзяржавы выцягваюць 320 млн. долараў на замену дзяржаўнай сімволікі? Чаму вы прагаласавалі "за"? Вельмі і вельмі многія адказвалі, маўляў, не ведалі, якіх гэта будзе каштаваць грошай".

**("Здравый смысл", №2,1997).**


*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

НАША СЛОВА

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naša Słowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 83.

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар** — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Камп'ютарны дызайн** — Ірына ДЗІВІНА.
**Камп'ютарны набор:** Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Камп'ютарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.


*З нагоды*

# Што чакаць беларусу ад Міжнароднай славянскай акадэміі?

У сродках масавай інфармацыі з'явілася паведамленне пра тое, што зарэгістраванае яшчэ ў 1995 годзе Беларускае аддзяленне Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры (БелАМСА) правяло выбары сваіх праўдзейных членаў, членаў-карэспандэнтаў і прафесараў.

Такім чынам, распачаў сваю практычную дзейнасць яшчэ адзін асяродак неапанславянізму — амаль што афіцыйнай ідэалогіі цяперашняй беларускай дзяржавы.

Згадаем, што яшчэ ў 1992 годзе ў Маскве адбыўся заснавальніцкі сход памянёнай славянскай акадэміі, які абвясціў, што МСА — грамадская навукова-тэхнічная і культурна-творчая арганізацыя, добраахвотная супольнасць. Яна ставіць за мэту захаванне ды развіццё навукі, мастацтваў і культуры, а таксама — культурнагістарычных і матэрыяльна-духоўных каштоўнасцяў, традыцыяў славянскага свету, умацаванне рознабаковых сувязяў між славянскімі ды іншымі народамі.

Такая дэкларацыя. Сама ж Славянская акадэмія — гэта, на сённяшні дзень, даволі разгалінаваная структура, дзе налічваецца 7 натуральна-навуковых, 13 гуманітарна-сацыяльных аддзяленняў, а таксама 20 аддзяленняў рэгіянальных — у Расіі, блізкім і нават у далёкім замежжы.

Паміж тым, ужо тады, калі МСА яшчэ рэгістравалася, дэмакратычныя маскоўскія аналітыкі зазначылі, што згаданая арганізацыя — пераважна палітычная, а не культурна-творчая, што яе сапраўдная мэта — прапаганда неапанславянізму — краевугольнага каменю імперскай ідэалогіі постсавецкай, посткамуністычнай Расіі. Пра гэта сведчыў і склад кіраўніцтва МСА, дзе ў большасці былі палітычныя, рэлігійныя, грамадскія дзеячы, вядомыя сваімі адназначнымі поглядамі на месіянскае месца Расіі і яе ролю галоўнага кансалідатара ў краінах славянскага свету пад крыламі двухгаловага арла. У кіраўніцтва ўвайшлі Генадзь Зюганаў, Руслан Хасбулатаў, Валянцін Распуцін, патрыярх РПЦ Алексій II, патрыярх Сербскай праваслаўнай царквы Павел ды іншыя.

Характэрная палітычная існасць і тых, хто засноўваў Беларускае аддзяленне МСА — акадэмік Мікалай Барысевіч, мастак Міхаіл Савіцкі, артыст Мікалай Яроменка-старэйшы. Іх перакананні шырока вядомыя беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі.

Даючы параўнаўча нядаўна інтэрв'ю сельскагаспадарчай афіцыйнай урадавай газеце "Белорусская нива", вучоны сакратар бюро БелАМСА, доктар філасофскіх навук, член-карэспандэнт Славянскай акадэміі Тадэвуш Адула, між іншым, заўважыў, што Беларусь пакуль што жыве інтэлектуальным запасам мінулых эпохаў, калі яна была адной з самых інтэлектуальна развітых рэспублік СССР. Але што будзе з нашай краінай у бліжэйшай будучыні? — рытарычна пытаецца спадар Адула і сам жа дае адказ: маўляў, калі не зменім грамадскага меркавання, меркавання ўлады ў адносінах да навукі, вучоных, інтэлігенцыі, культуры ў цэлым, то разлічваць на ўваходжанне краіны ў цывілізаванае грамадства нельга.

Што ж, нельга не прызнаць слушнасць гэтай думкі, асабліва ў кантэксце цяперашніх праблемаў беларускай нацыянальнай культуры ды беларускай мовы.

Але на пытанне газеты адносна поглядаў вучонага сакратара БелАМСА на памянёныя праблемы Тадэвуш Адула адказаў так (цытата): "У апошнія гады вельмі шмат гаворыцца аб развіцці нацыянальнай культуры, асабліва беларускай мовы. Дайшло да таго, што ледзьве ці не сілай загада пачалі пераводзіць рускамоўныя школы ў беларускамоўныя. Слава Богу, розум усё ж узяў верх над эмоцыямі".

Выходзіць, спадар Адула добра бачыць, як губляе свае пазіцыі беларуская культура, але ўспрымае гэта даволі своеасабліва. Ён непрыхавана радуецца! Таму зноў давядзецца працытаваць наступны пасаж:

"Цяпер мы ўсе сталі відавочцамі выцяснення беларускай нацыянальнай культуры заходнееўрапейскай і асабліва амерыканскай маскультурай, чужой нашаму славянскаму народу. І што сталася з беларускай мовай? Я ўжо не кажу пра яе засмечанасць пазычанымі з Захаду ды з плошчаў словамі. Вось аб чым найперш трэба клапаціцца прыхільнікам беларускай культуры, а не ваяваць з нібыта "засіллем" расійскай мовы".

Калі ўлічыць тое, што нешта падобнае ў розныя часы казалі і самі заснавальнікі БелАМСА, то можна меркаваць: Тадэвуш Адула выказаў афіцыйны погляд Славянскай акадэміі на праблему адраджэння беларускіх нацыянальных духоўных каштоўнасцяў: зноў, як некалі, вінаватыя амерыканскія імперыялісты.

Тыя беларускія пісьменнікі і журналісты, якім я даў прачытаць гэты пасаж, сказалі, што тут нават не патыхае славянскім братэрствам. Што, акрамя далейшага русіфікатарства ды памкнення адгарадзіць беларускі народ ад еўрапейскай культуры, нічога добрага МСА і яе тутэйшая філія краіне не прынясуць. Спадару Адулу трэба добра падумаць, чаму беларуская мова стала мовай мітынгаў і маніфестацый на вуліцах ды плошчах, чаму яна пераўтварылася з філалагічнага ў палітычны фактар.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Уражанні*

# Каляда і ў "Макдональдс" завітала

Кажуць, пад ляжачы камень і вада не цячэ. А святы, што спляліся ў клубок у недалёкім часе (і каталіцкія, і праваслаўныя каляды, Новы год), якраз вымагалі ад нашага спадарства быць гэткім каменем, які, накупляўшы, аддарыўшы, нагатаваўшы, можа ляжаць пад тэлевізарам у форме канапы на працягу бясконцых святочных дзён. Не спакусіўшыся гэткімі формамі, я з групай студэнтаў Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання вырашыла правесці святы ў актыўнай пазіцыі, і, падрыхтаваўшыся як след, гуртом калядоўшчыкаў мы адправіліся калядаваць, як і належыць, па кватэрах менчукоў. Вядома, каб не сапсаваць настрой сабе і людзям (а раптам у чалавека сённяшнім часам не знойдзецца, што палажыць у мех механошы), асучаснілі свае намераванне, зараней дамовіўшыся аб прыходзе. І пакуль мы вытрымлівалі гэтыя дамоўленасці, усе было добра. Праўда, заўважыла, што каталікі і уніяты, якія адзначалі Каляды ў адзін дзень, ці то больш аптымістычныя, ці то наймацней звязаныя са старажытнымі абрадамі, але актыўней замаўлялі калядоўшчыкаў на свята, а вось спіс адрасоў на калядаванне 7 студзеня быў надзвычай танюткі, а потым і зусім высах, што адчайна засмуціла і мяне, і студэнтаў, бо вельмі ж ужо хацелася зноў павітаць жыхароў па-каляднаму. Але затое 26 снежня, апрануўшыся адпаведна, са смехам, жарцікамі, з Зоркай, з Казой, з цыганамі паехала Каляда з канца ў канец у стольным горадзе Менску. І расчыняліся дзверы, і чулася магічнае: "Добры вечар тому, хто ў гэтаму дому!" І радасна было бачыць прыемна здзіўленых гаспадароў, чуць шчаслівы віск дзяцей, адказваць на пытанні зацікаўленых менчукоў. Мае студэнты ўпершыню выконвалі такія ролі, і гэта было захапляюча. Як прыгожа скакала Каза (Саша Найраноўскі) пад моцнай рукой Павадыра (Ірына), як білі ў бубен цыганы, варожачы на лепшую долю, як стараўся Засявальнік, рассейваючы зернеткі жыта - Шчасця, жыта - Дабрабыту. І знікла кудысьці наша заўсёдная беларуская ціхмянасць, скаванасць, студэнты ўступаюць у калядныя дыялогі, і... вось дзіва для мяне. Тыя, хто на занятках ледзьве валодаў мовай, цяпер шпарка чэша-сыпле жарцікамі, рыфмамі-экспромтамі, бо не на ўсе выпадкі загатоўкі ёсць. І хоць гаспадары — народ няпросты, сустракае нас сам Ахрэм Эдвард Эдвардавіч, прэзідэнт-рэктар БКУК і выпрабоўвае на моц калядоўшчыкаў, то падбухторваючы на дыялогі, то замаўляючы песню. Але, відаць, спрацоўвае генетычны код, відаць, дзяды перадалі ў спадчыну майстэрства тварыць, і ўзята вышыня, не прынізілі студэнты годнасці калядоўшчыкаў, зачаравалі і песняй шчырай, і майстэрствам пераўвасаблення. І калі ўпачатку трохі асцерагаліся выпрабоўваць на моц сцены коласаўскага дома і вялі калядную размову з гаспадыняй, унучкай Коласа Марыяй Міцкевіч, яе гасцямі Юрыем Хадыкам, яго жонкай Валянцінай, цёткай Данчыка Маргарытай у вельмі класічным стылі, то ўжо потым, у дачкі рэпрэсаванага паэта Тодара Кляшторнага Маі Тодараўны, разышліся і, нягледзячы на "шырыню" нашых савецкіх пакояў, нават станчылі з дзецьмі, чым пакінулі незабыўнае ўражанне ў іх сэрцах. І я зразумела, што калядаванне — гэта не толькі здзяйсненне абраду, гэта — таемства, якое робіць цуды, на вачах пераўтварае чалавека расчараванага, абцяжаранага мільёнамі клопатаў у свабоднага, шчаслівага і ад таго моцнага беларуса, у Змагіцеля. Як жа я ўдзячная Вам, шаноўная Рагнеда Вінцэнтаўна Аляхновіч-Жук-Грышкевіч, за Вашыя слёзы, цераз якія Вы на працягу каляднай размовы глядзелі на маіх студэнтаў. Мы зразумелі, як прыемна і крыўдна было Вам, дачцэ славутага роду, што бараніў карані беларушчыны, сустракаць у сваёй хаце упершыню вясёлы гурт калядоўнікаў, што павінны стаць звычайным, прывычным напрыканцы 20-га стагоддзя для беларусаў.

І дзякаваць вам, мілыя спадарыні-гаспадыні, хто нас сустракаў і стараўся на кожнае слова гуртоўцаў адгукнуцца і класці ў калядны мех і каўбасы, і сала, і яблыкі, і печыва. Дзякую Вам, мілая Тарэса Іванаўна, што так турбаваліся (не мы, а вы — гаспадыня), каб хоць патрапіць адказаць правільна каляднікам, і ўсё дапытваліся, як словы завіваць, каб атрымаўся сапраўды калядны годны адказ Гаспадыні, удзельніцы калядавання. Вы ўсе, мае шаноўныя, не проста сустракалі каляднікаў, вы з'явіліся рушэнцамі заганнай практыкі савецкіх Каляд-святаў, што нічым не адрозніваліся ад іншых, з заўсёднымі прамовамі, традыцыйнымі чаркамі і стравамі на стале. Вы дапусцілі ў хаты свае гэтую калядную сімфонію Майстэрства, Спадчыны, Мовы, ад якой мы так неабачліва адмовіліся, даўшы волю пачварнасці займаць покуці ў нашых хатах, але цяпер вяртаемся назад, да каранёў. Вы запалілі ў душах маіх маладзейшых студэнтаў свечачку беларускасці, цяпло якой яны стараліся ўжо перадаць іншым, сваім жа калегам, калядуючы назаўтра ў родных сценах універсітэта. Паглядзелі б вы, як шчыра сустракалі калядоўшчыкаў студэнты, закідалі мех грашыма, а некаторыя нават прыладзіліся хадзіць разам па аўдыторыях ды дэканатах.

Мушу аднак адзначыць, што гэты санет шчырасці, гасціннасці не быў суцэльным, з праявамі гомасаветыкуса мы таксама сустракаліся. Так, часам на вуліцы жыхар, здзіўлены незвычайным відовішчам, забыўшы, што такое Каляды, ведаючы "Рождество", кіне прывычна-савецкае: "Пить надо меньше". А вось гісторыя ў "Макдональдсе" нават не так абурыла, як прымусіла задумацца аб спрадвечнай рахманасці беларусаў. Завітаўшы ў славуты амерыканскі рэстаран, не паспеўшы пацешыць наведвальнікаў і работнікаў каляднымі песнямі, што, прынамсі, успрымаліся імі надзвычай шчыра і зацікаўлена, мы мелі даволі непрыемную гутарку з прадстаўніком адміністрацыі, які папрасіў пакінуць "заведение, ибо мы таким образом нарушаем порядок". Ні даць ні ўзяць як вытрымка з міліцэйскага пратакола па справах затрыманых менчукоў пад час агульнавядомых падзей. Але хлопец быў такім амерыканска-беларускім з такім беларускім пранонсам і амерыканскай шыльдачкай на грудзях, што ўзяло шкадаванне — прападае чалавек.

Вось так, мае паважаныя, мы і адкалядавалі. І каменняў ляжачых не было, і вада калядная цыкластуменілася і завівалася ў вяночкі песень, танцаў, дасціпных слоў, ствараючы сумна-вясёлы настрой, прадыктаваны жыццём, якое трэба ўсім ладзіць супольна, малым, маладым ды сталым, выводзячы вянец нацыянальнага шляху, паклаўшы ў падмурак нацыянальную ідэю.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ, выкладчык БКУК, аргсакратар ТБМ.**

# СЫН ДВУХ БРАЦКІХ НАРОДАЎ

Напрыканцы мінулага года ў Менску прайшлі ўрачыстасці, звязаныя са знамянальнай датай: 75-годдзем з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка, літаратуразнаўцы, крытыка, перакладчыка Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. У Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе ён працаваў з 1963 года, адбыліся навуковыя чытанні. З уступным словам выступіў член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі прафесар Алег Лойка. З дакладамі — прафесары Дзмітрый Бугаёў ("С. Александровіч — літаратуразнаўца і крытык") і Вячаслаў Рагойша ("Александровіч — перакладазнавец"), з успамінамі — дацэнт Вольга Казлова ("Святло нашай душы"). Навуковая канферэнцыя адбылася і ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, дзе Сцяпан Хусейнавіч таксама працаваў нейкі час. Як паведаміла рэдакцыі навуковы супрацоўнік музея Л. Камароўская, канферэнцыя прайшла цікава і з карысцю для прысутных. Адкрыла пасяджэнне і прыгадала юбіляра добрым словам дырэктар музея Зінаіда Камароўская, якой давялося вучыцца і пісаць дыпломную работу пад кіраўніцтвам С. Александровіча. З цікавымі ўспамінамі выступілі народныя пісьменнікі Янка Брыль і Ніл Гілевіч. Дацэнт БДУ Маргарыта Яфімава прачытала даклад на тэму: "Сцяпан Александровіч і беларуская дзіцячая літаратура". Віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман Ібрагім Канапацкі зачытаў памінальную татарскую малітву, а дзіцячы гурт Цэнтра нацыянальнай культуры выканаў песні на беларускай і татарскай мовах. Напрыканцы ўдзельнікі канферэнцыі паспрабавалі нацыянальныя татарскія стравы "гальму" і "джальму".

Сцяпан Хусейнавіч Александровіч нарадзіўся 15 снежня 1921 г. у старадаўнім мястэчку Капыль. Яго бацькі былі беларускімі татарамі, якія захавалі свае звычаі і абрады, але роднай мовай іх была беларуская, што паўплывала на выбар жыццёвай дарогі будучага літаратара. У сваіх аўтабіяграфічных нататках "Радзіма мая — Капыль" С. Александровіч з любоўю згадвае родныя мясціны, дзе прайшло яго "пастухоўскае" дзяцінства, расказвае пра літаратурныя традыцыі, якія склаліся ў Капылі яшчэ да рэвалюцыі і да ўтварэння якіх найбольш прычыніліся беларускія выданні (газета "Наша ніва", рукапісныя часопісы "Вольная думка", "Заря", "Голос низа" і інш.) і дзейнасць капыляніна Цішкі Гартнага, Ігната Буйніцкага, нясвіжскіх семінарыстаў. Прыгадваючы, якім вялікім поспехам карысталася беларуская кніга ў часы яго дзяцінства, С. Александровіч пісаў: "Я чатыры гады трымаў у адной руцэ кнігу, а ў другой пугу. Чытаў многа, чытаў запоем, аддаючы перавагу беларускай кніжцы. Па руках у мястэчку хадзілі зачытаныя да дзірак раманы "Сцежкі-дарожкі" Міхася Зарэцкага, "Сокі цаліны" Цішкі Гартнага, "Палескія аповесці" Якуба Коласа. Для мяне гэтыя кніжкі былі яшчэ недасягальнай марай, я тады яшчэ чытаў "Палескіх рабінзонаў" і "У краіне райскай птушкі" Янкі Маўра, купляў усе выпускі з серый "Бібліятэкі школьніка" і "Малады прыродазнаўца"...

У верасні 1939 г. Александровіч паступіў у БДУ, але скончыць першы курс яму не давялося — забралі ў армію. А там пачалося гітлераўскае нашэсце. 16 траўня 1942 г. дваццацігадовы юнак Сцяпан Александровіч быў паранены (на Керчанскім паўвостраве) і захоплены ў палон. Лагер ваеннапалонных у Крывым Рогу з яго холадам і голадам надарвалі здароўе. З палону ўдалося ўцячы і яшчэ паваяваць у партызанскім атрадзе, але ад цяжкай хваробы лёгкіх, якую набыў у палоне, не змог вылечыцца.

Важны этап у жыцці Александровіча — шматгадовая педагагічная работа ў Навагрудскай сярэдняй школе, якая размяшчалася ў будынку былой Беларускай гімназіі і ў настаўніцкім калектыве якой працавала шмат выкладчыкаў гэтай гімназіі. З упэўненасцю можна сказаць, што настаўніцкі калектыў дапамог завяршыцца духоўнаму сталенню Сцяпана Хусейнавіча і знайсці сваё месца ў жыцці.

Скончыўшы завочна філфак БДУ і аспірантуру (дысертацыю абараніў у 1958 г.), С. Александровіч уліваецца ў шэрагі дзеячаў беларускай культуры. З-пад яго пяра выходзяць кнігі краязнаўча-біяграфічных нарысаў пра Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, М. Танка, К. Чорнага, П. Броўку, М. Лынькова, якія склалі кнігі "Незабыўныя сцежкі" (1959) і "Па слядах паэтычнай легенды" (1965). Ім таксама напісаная трылогія, прысвечаная жыццю Якуба Коласа ("Ад роднае зямлі", 1962, "На шырокі прастор", 1972, "Крыжавыя дарогі", 1985), аповесці "Далёкія зарніцы" (1967 ), — пра подзвіг народа ў вайне, і шэраг літаратуразнаўчых прац: "Старонкі братняй дружбы" (1960), "Гісторыя і сучаснасць" (1968), "Пуцявіны роднага слова" (1971), "Слова — багацце" (1981).

Памёр Сцяпан Хусейнавіч 1 траўня 1986 года, заўчасна. Прафесар Леанід Лыч у сваім артыкуле "Татарскі класік беларускага народа" сказаў пра яго так: "Беларускі пісьменнік татарскага паходжання Сцяпан Александровіч па крыві належыць да татарскай нацыі, а па зместу, характару сваёй дзейнасці — да беларускай. Гэта, у поўным сэнсе слова, сын двух народаў".

**Ірына КРЭНЬ.**

# ТВЛ: *беларуская культурная альтэрнатыва*

*Стваральніка гэтай арганізацыі, поўная назва якой — Таварыства вольных літаратараў, завуць Алесь Аркуш. Ён нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне, скончыў там школу і політэхнічны тэхнікум. Пасля службы ў войску вучыўся ў сталічным Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі (цяпер — Эканамічны універсітэт). Па скачэнні інстытута пераехаў у Наваполацк, дзе жыве і працуе дагэтуль. Акрамя шэрагу празаічных твораў, ён з'яўляецца аўтарам тэкстаў большасці песень аднаго з найбольш вядомых у краіне рок-гуртоў — "Мясцовы час".*

**— Як Вы прыйшлі ў грамадскі рух?**

— Атрымаўшы ў 1987 годзе дыплом, я папрасіў размеркавання ў Полацк. Я ведаў, што там жывуць і працуюць Уладзімір Арлоў, Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Баршчэўскі, што гэтыя і іншыя людзі надаюць Полацку яго адметнае аблічча беларускага асяродка.

Гэты асяродак нефармальнага нацыянальнага і культурніцкага руху я заспеў у стане росквіту. Я ўжо даволі даўно займаўся літаратурай і таму хутка пазнаёміўся з людзьмі, якія ўтварылі літаратурнае аб'яднанне "Крыніцы". Там мы збіраліся некалькі разоў на месяц, чытаючы адзін аднаму свае творы. Падобнага таму, што гучала там, я дагэтуль чуў няшмат. У Полацку я пазнаёміўся з новай, свабоднай ад уплыву савецкасці беларускай культурай. З 1986 года я быў сябрам іншага літаратурнага аб'яднання — "Тутэйшыя", але ў параўнанні з ім "Крыніцы" не выглядалі правінцыйнымі. Полацк быў беларускім асяродкам, значным не менш за сталіцу.

Людзі — носьбіты іншай беларускай культуры, альтэрнатыўнай афіцыйнай, мусяць мець уласную арганізацыю, якая створыць супрацьвагу дзяржаўнай манаполіі на беларускую культуру. Гэтая думка пачала выспяваць у мяне яшчэ тады. Першая спроба яе ажыццяўлення адбылася ў 1989 годзе: я разаслаў лісты Ігару Бабкову, Таццяне Сапач, Алегу Мінкіну ды іншым літаратарам новай генерацыі. Тое аб'яднанне так і не было створанае, але ідэя заснавання беларускай арганізацыі, якая будзе прадстаўляць новую хвалю нацыянальнай літаратуры, засталася актуальнай.

У 1992 годзе пачалася актыўная перапіска паміж будучымі заснавальнікамі новай арганізацыі. А 8 траўня 1993 года ў Наваполацку адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства вольных літаратараў, сябрамі якога сталі Вінцэсь Мудроў, Юры Гумянюк, Лера Сом, Юрась Пацюпа, Славамір Адамовіч ды іншыя.

**— Якія мэты паставіла перад сабой новая арганізацыя?**

— Мы бачылі наперадзе новую Беларусь і новую яе культуру, пазбаўленую рысаў правінцыйнасці, мястэчковасці, этнаграфічнасці. Мы стваралі яе і таму першай нашай мэтаю стала публікацыя твораў новай беларускай літаратуры.

Дзеля таго быў заснаваны альманах "Калосьсе". Ідэю яго стварэння падаў нам Алесь Касцень, які потым дапамог і знайсці для яго недарагую друкарню. Першы нумар "Калосься" выйшаў у 1993-м. Потым быў год перапынку — за гэты час мы набылі кампутарны выдавецкі комплекс, каб надаць нашаму выданню сучасны не толькі змест, а і выгляд. У 1995 выйшаў яго здвоены нумар, у 1996-м — наступны, цяпер рыхтуецца новы.

Акрамя гэтага, мы маем іншыя праекты. ТВЛ выдала бібліятэчку паэзіі новай генерацыі — вершаў, не друкаваных дагэтуль нідзе.

**— У Беларусі з'явіўся свой андэрграўнд?**

— Так, на працягу апошніх дзесяцігоддзяў нашыя літаратары, у адрозненне ад паэтаў\ і пісьменнікаў іншых краінаў з таталітарным рэжымам, не пісалі "ў стол". Падпольнай, альтэрнатыўнай, антысавецкай, нацыянальнай змястоўна, а не вонкава культуры ў БССР не існавала. Прычынаю было тое, што беларуская творчая інтэлігенцыя маўкліва пагаджалася са станам маргінальнасці беларушчыны і яе непазбежным канцом, жадаючы адно — адцягнуць яго, а не радыкальна змяніць стан рэчаў.

Мы мелі прынцыпова іншыя погляды і таму рушылі іншым шляхам.

**— Каму прызначаная творчасць удзельнікаў ТВЛ?**

— Паглядзіце, хто гаворыць сёння па-беларуску? Час этнічнай беларушчыны скончваецца. У здаўна асіміляваных гарадах усё менш людзей мае падставы называць мову "матчынай". Новыя беларусы (я маю на ўвазе нацыянальнае самавызначэнне, а не прыналежнасць да новай эліты), якія выраслі ва ўмовах панавання расійскамоўнай культуры, свядома робяць выбар на карысць беларускай. Новая беларуская культура перастала быць вясковай і выключна этнічнай. Апынуўшыся пад уціскам, яна не здае сваіх пазіцыяў, як адбывалася з канца 40-х гадоў, калі ў разбураных вайной гарадах расійскую мову засвоілі мільёны ўчарашніх вяскоўцаў. Новыя беларусы маюць слабае ўяўленне аб народных звычаях і традыцыях, затое ствараюць уласны фальклор і нават слэнг.

Мы — частка іх. Свае першыя творы я, Алег Мінкін, Юры Гумянюк ды шмат хто яшчэ пісалі па-расійску. Мае вершы друкаваліся ў часопісах "Парус", "Студенческий меридиан". Але нават мае сябры з Масквы казалі: тое, што я пішу, — не расійская паэзія. У час студэнцтва я пазнаёміўся з менскімі паэтамі і зразумеў: сялянскай і маргінальнай беларуская мова робіцца штучна. А на самой рэчы ёй можна выказаць і апісаць кожную думку, кожнае пачуццё, кожную з'яву... Мой светапогляд быў сфармаваны горадам. Я пачаў пісаць па-беларуску пра яго і для яго.

Сёння новае пакаленне беларусаў жыве пераважна ў горадзе. Традыцыйная ж беларуская літаратура ствараецца людзьмі іншай свядомасці, існуе як іншы слой культуры. Але нацыянальная культура — з'ява неаднародная. Існуе, напрыклад, такі яе слой, як масавая культура. Існуе слой грамадства, які можа ўспрымаць беларускую мову як мову рок-музыкі — з іншымі яе формамі гэтыя людзі, пераважна маладыя, папросту не сутыкаюцца. Ёсць спажыўцы інтэлектуальнага мастацтва, гатовыя чытаць Кафку, Джойса, Хайдэгера ці іншых аўтараў падобнага ўзроўню па-беларуску. Але гэтыя нішы беларускай культуры дагэтуль застаюцца пустымі...

**— ТВЛ імкнецца іх запоўніць?**

— Нам зрабіць гэта немагчыма фізічна. Але менавіта ў іх існуюць творы нашых сяброў. Напачатку мы спрабавалі пісаць нешта авангарднае, альтэрнатыўнае, нягледзячы на тое, што ведалі: падобныя творы па ўсім свеце знаходзяць няшмат чытачоў. Потым пачаліся спробы стварэння твораў для масавага чытача: трылераў, дэтэктываў... Аднак ў гэтай сферы немагчыма супрацьстаяць сапраўднай плыні падобнай літаратуры заходніх і расійскіх аўтараў, якая цячэ да нас з Усходу і выдаецца тут.

Сёння мы ствараем рэчы, якія могуць зацікавіць чытача сваёй праблематыкай. Нядаўна ТВЛ выдала скандальную аповесць Славаміра Адамовіча пра ягоныя колішнія дачыненні з КДБ, якая атрымала вялікі розгалас.

**— Сёння выдавецкія праграмы большасці беларускіх грамадскіх арганізацыяў, у тым ліку і ТБМ, спыненыя. Якім чынам здолелі працягнуць справу вы?**

— Думаю, адзіная прычына ў тым, што мы разлічваем выключна на сябе, а не на падтрымку дзяржавы. І гэтыя разлікі спраўджваюцца. Мы робім усё, што хочам зрабіць: выдалі бібліятэчку нашай паэзіі, выдаём часопіс не толькі непадобны на іншыя, але і прыгожы, паліграфічна якасны.

Але працаваць у такім рэчышчы дастаткова складана. Бо патрэбна найперш адмовіцца ад стэрэатыпаў, дагэтуль існуючых у свядомасці старэйшага пакалення. Сёння гарантыяй выдання намі нейкай кнігі можа быць толькі безумоўная яе папулярнасць у чытачоў. Такіх крытэрыяў, як сацыяльная патрэба, адданасць аўтара ідэям адраджэння ці прапагандысцкая каштоўнасць, для нас не існуе.

Можаце паверыць, што напісаць нешта адпаведнае нашым патрабаванням маладому аўтару значна лягчэй, чым старому, які звыкся з існуючай раней і адноўленай цяпер дзяржаўнай выдавецкай сістэмай, з яе цэнзурай.

Яшчэ адна акалічнасць: ТВЛ — не дзяржаўная і не камерцыйная структура. Мы самі шукаем сродкаў на сваю дзейнасць. Існуюць дзве крыніцы здабывання грошай. Адна — айчынныя і замежныя дабрачынныя фонды, якія падтрымліваюць культурныя ініцыятывы. Мы звяртаемся да іх, удзельнічаем ў іх конкурсах і атрымліваем гранты на сваю справу.

Другая — прыватныя фундатары, бізнесоўцы. Чаму яны даюць нам грошы? На тое ёць дзве прычыны. Адна — своеасаблівы мястэчковы патрыятызм. Полацкаму прадпрымальніку, які дае нам грошы, папросту прыемна, што ў ягоным горадзе ёсць літаратары, кнігі якіх варта друкаваць. Іншыя ж бізнесмены свядома даюць грошы на падтрымку нацыянальнай культуры. І тых, і іншых не так ужо мала, галоўнае — паказаць ім, што ўкладзеныя сродкі не марнуюцца, а ідуць на тое, для чаго яны былі прызначаныя.

**— На беларускіх кнігах сёння нельга зарабіць грошы. Чаму, нягледзячы на гэта, вы працягваеце сваю працу?**

— Тое, што мы робім, скіравана на стварэнне ў перспектыве новай сацыяльнай сітуацыі. Мы даём ў значнай ступені абыякаваму да беларушчыны грамадству друкаваныя намі беларускія кнігі. Вынік таго — усведамленне ім нашай прысутнасці, усведамленне жыццяздольнасці беларускай культуры, разуменне таго, што ў ёй існуе іншая, нікому не падпарадкаваная, свабодная плынь, якой не было з пачатку стагоддзя. Я перакананы, што колькасць рана ці позна пяройдзе ў якасць, у разуменне людзьмі таго, што яны ствараюць не адзіную савецкую ці постсавецкую супольнасць, а нешта большае — народ Беларусі.

**— Нядаўна вы бралі ўдзел у трэнінгу лідэраў няўрадавых арганізацыяў, ладжаным у Менску. Што даў ён Вам?**

— ТВЛ гэтак жа, як і ТБМ, ёсць арганізацыяй "трэцяга сектара" — гэта значыць, недзяржаўнай і некамерцыйнай. А каб дзейнічаць нармальна ў сённяшніх ненармальных для грамадскіх арганізацыяў умовах, нам трэба набірацца доследу і дзяліцца ім.

Прывяду прыклад: гэтакжасама, як ладзіць свае канферэнцыі ТБМ, ладзім іх і мы — апошняя з іх адбылася нядаўна ў Полацку і называлася "Недзяржаўныя літаратурныя выданні: шляхі станаўлення". На ёй разглядаліся пытанні, актуальныя для ўсіх грамадскіх рухаў, якія займаюцца ці хочуць займацца выдавецкай дзейнасцю, для аўтараў розных выдавецкіх праектаў. Мы разглядалі спосабы стварэння недзяржаўных выданняў, іх фінансавання. Мы вызначалі нішы, ў якіх тыя могуць існаваць. Аказалася, між іншым, што ці не найбольш перспектыўным у будучыні можа стаць літаратуразнаўчае прыватнае выданне, бо гэтая ніша дагэтуль не занятая нікім, ніхто не спрабуе асэнсаваць працэсаў, якія адбываюцца ў беларускай літаратуры...

Удзел у трэнінгу, які ладзіла арганізацыя "United Way — Беларусь" даў мне разуменне актуальнасці існавання нашай структуры як часткі грамадства, якая залежыць ад іншых і адначасова можа ўплываць на іх.

**— Ваша арганізацыя імкнецца змяніць грамадства?**

— Да гэтага ў той ці іншай ступені імкнецца кожная грамадская арганізацыя. Часам я праводжу паралелі паміж ТВЛ і ТБМ, кірункі дзейнасці якіх у нечым супадаюць. Але нашая арганізацыя дзейнічае іншым спосабам, чым вашая.

Мы імкнёмся паўплываць на свядомасць людзей не заклікамі вывучаць родную мову, а іншым спосабам — прапануючы ім тое, чаго хочуць яны самі, але чаго ніхто, акрамя нас, даць ім не можа — нашыя кнігі. Я ведаю, яны падабаюцца і патрэбныя не кожнаму. Але замест таго каб аплакваць беларускую мову, мы робім іншае — задавальняем напісанымі ёй творамі патрэбы людзей. Я перакананы, што калі беларуская мова запоўніць усе нішы, якія дагэтуль існуюць у попыце на творы культуры — гэта і дублі замежных фільмаў, і літаратура — як масавая, так і элітарная ды шмат чаго іншага, — тады беларусы змогуць існаваць як народ, мова якога не вымірае, а жыве.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

## *Вiншуем!*

# Руплівы працаўнік на ніве Адраджэння

Імя Міхася Вераціла шырока вядомае ўсім, хто цікавіцца беларускай мінуўшчынай. У яго талент даследніка і адкрывальніка. Вось чаму ягоныя артыкулы па краязнаўстве заўсёды цікава чытаць. Цікава, канешне, і таму, што ў Міхася Вераціла яшчэ адзін адметны талент — літаратара. Ён адукаваны калекцыянер, і ўжо самі апісанні ім знаходак старажытных рэчаў — гэта займальна і павучальна.

А да ўсяго гэтага Міхась Верацiла шмат чаго ўмее рабіць уласнымі рукамі. Ён пабудаваў сабе цікавы дом, ён аздобіў у беларускім народным стылі інтэр'ер і фасад дзіцячага садка. А хто не запомніў фотаздымак паэта Сяргея Панізьніка ў кальчузе старажытнага беларускага вояра! Гэтую кальчугу выкаваў усё ён — Міхась Верацiла. Таму гэты таленавіты чалавек, руплівы працаўнік і шчыры патрыёт Айчыны і вядомы не толькі ў сваім мястэчку Краснасельскае, але і за межамі Беларусі. 17 студзеня яму споўнілася 60 гадоў. Сябры, прыхільнікі таленавітага самародка сардэчна віншуюць яго з юбілеем і ўпэўненыя, што наперадзе ў Міхася Вераціла новыя цікавыя здзяйсненні.

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

**P.S.** У нумары NS чытайце новы артыкул нашага шаноўнага аўтара Міхася Вераціла.

## *Крымінал-Дайджэст*

# Дзёрзкія ўцёкі

Дзесяць асабліва небяспечных злачынцаў 10 студзеня ўцяклі з Берасцейскай турмы. Яны разабралі частку цаглянай сцяны верхняга паверха і выбраліся на дах будынка. Сярод злачынцаў, якім ад 20 да 40 гадоў, ёсць грамадзяне не толькі Беларусі, але і Расіі. За суботу і нядзелю 8 злачынцаў затрыманыя. У панядзелак быў схоплены 31-гадовы Гарык Арзуманян, які абвінавачваецца ў забойстве. На волі застаецца толькі жыхар Бярэсця Станіслаў Салавейка.

# Забойства за курыцу

Жудаснае злачынства адбылося ў г. Крычаве Магілёўскай вобласці. Жыхар гэтага горада забіў двух сваіх суседзяў-пенсіянераў і параніў іх зяця. Куры пенсіянераў зайшлі на суседскі падворак і будучы злачынец, выганяючы іх, зламаў адной курыцы крыло. Гаспадыня паскардзілася на яго ў міліцыю. Даведаўшыся пра гэта, ён кінуўся на старых з нажом і забіў іх. Зяць, які спрабаваў іх абараніць, атрымаў раненне.

**Падрыхтаваў А. Н.**

## *Культурнае жыццё*

# *З песняй не згінем*

Сёння ў нашым жыцці столькі нягод і цяжкасцяў, што, здаецца, зусім не да песень. Калі ж нешта і заспяваць, то хутчэй жалобнае. Ды не так мяркуюць людзі, моцныя духам. Таму Рада ТБМ Гарадоцкага раёна і стала ініцыятарам агляду беларускай народнай творчасці пад дэвізам "З песняй жыве народ!" Ініцыятыва знайшла падтрымку ў раённым камітэце прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, а таксама ў настаўнікаў. Першы агляд-фестываль адбыўся ў апошні дзень веснавых школьных канікулаў мінулага года. Тады ў свяце ўзялі ўдзел 14 педагагічных калектываў раёна. Кожны калектыў паказаў абрадавыя, старадаўнія і сучасныя беларускія песні. Яны гучалі цэлы дзень, даючы магчымасць яшчэ раз пераканацца ў таленавітасці ды самабытнасці нашага народа.

Зараз ідзе падрыхтоўка да чарговага веснавога песеннага свята. Актыўна яна вядзецца ў 2-й Гарадоцкай, Бычыхінскай школах, якія мінулы раз сталі прызёрамі.

Варта адзначыць, што свята ладзіцца дзякуючы падтрымцы раённага аддзела адукацыі, Гарадоцкага філіяла Міжнароднага інстытута рэзервовых магчымасцяў чалавека ды ТАА "Грамада" (Віцебск).

**Леанід ГАРАВЫ.**




**На здымку:** Спявае вакальная група настаўнікаў базавай школы.

**Фота М. КРАЎЦОВА.** (Гарадоцкая райгазета).

*Замежжа*

# Славянскае адзінства ў н'ю-ёркскім пастарунку

Галоўнай прычынай высылкі дыпламатаў па ўсім свеце з'яўляецца іх дзейнасць, не прадугледжаная статусам. Звычайна за гэтым цьмяным акрэсленнем хаваецца звычайны шпіянаж. Але напрыканцы мінулага года ў адным з буйнейшых гарадоў ЗША адбылося нешта іншае.

Як паведамілі прадстаўнікі амерыканскага боку, 29 снежня мінулага года ўвагу двух афіцэраў паліцыі Н'ю-Ёрка — Патрыка Гейна і Роберта Фінэрці — прыцягнуў чырвоны "Шэўралє", запаркаваны, насуперак правілам, ля пажарнага крана. Як заведзена ў падобных выпадках, паліцыянты выпісалі квітанцыю на штраф і прыляпілі яе да шкла машыны. Аднак кіроўца і яго спадарожнік, якія, паводле сведчанняў паліцыянтаў, толькі што выйшлі з бліжэйшага рэстарана і былі яўна нецвярозыя, не пажадалі супрацоўнічаць з прадстаўнікамі закона. Чалавек, які сядзеў за рулём, адмовіўся паказаць свае шафёрскія правы, выключыць матор і выйсці з машыны. А пасля таго, як Патрык Гейн, працягнуўшы руку да ключа, сам выключыў рухавік і выцягнуў з машыны п'янога кіроўцу, пасажыр, які сядзеў з тым побач, выйшаў з машыны і ўдарыў Роберта Фінэрці. Пасля таго добра выцвічаныя паліцыянты без разважанняў закавалі ў кайданкі абодвух парушальнікаў парадку і адвезлі тых у пастарунак. Фінэрці сутычка каштавала пашкоджанага твару, шафёру машыны — паламанай рукі.

Затрыманым былі прад'яўленыя абвінавачванні ў нападзе на прадстаўнікоў службы парадку і ў супраціўленні ім пад час арышту. Аднак неўзабаве паліцыянты з подзівам даведаліся: парушальнікам правілаў паркоўкі быў дыпламат Барыс Абносаў — супрацоўнік расійскай місіі пры ААН, а аматарам бокса — ягоны калега, супрацоўнік беларускай місіі Юры Аранж.

Што пагражала б у падобным выпадку менш упрывілеяваным грамадзянам Беларусі ці Расіі? Пэўна, адказ на гэтае пытанне застанецца таямніцай навекі: пасля таго, як абодва затрыманыя пацвердзілі ў паліцыі свой статус дыпламатаў, абвінавачванні з іх былі знятыя. Бо хаця акрэдытаваныя ў ЗША дыпламаты і мусяць выконваць законы краіны, Венская канвенцыя 1961 года не дазваляе іх арыштоўваць ці абвінавачваць у крымінальным злачынстве.

Што адбылося далей? Мэр Н'ю-Ёрка Рудольф Джуліані (у мінулым пракурор) выказаў паліцыянтам удзячнасць за тое, што яны не дазволілі выехаць на дарогу нецвярозаму шафёру. Пан Джуліані нагадаў: толькі за першыя шэсць месяцаў 1996 года на 122 машыны, што належаць прадстаўніцтву Расіі пры ААН, прыпала 14 437 штрафаў — больш, чым на кожную іншую дыпламатычную місію. За той жа час 15 аўтамабіляў беларускага прадстаўніцтва атрымалі 828 штрафаў.

Мэр катэгарычна адмовіў тлумачэнні расійскіх дыпламатаў, якія сцвярджалі, што затрыманне іхняга калегі з'яўлялася парушэннем закона, і заявіў:

— Паводзіны аднаго з прадстаўнікоў Расіі нагадалі мне часы, калі савецкі бок фальсіфікаваў факты. Спачатку яны білі паліцыянтаў па твары, а потым хлусілі, быццам бы іх білі паліцыянты. Канешне, мы не збіраемся перапрашаць. Мы патрабуем выслаць іх з нашай краіны. Тут ім няма месца.

І сапраўды, у лістах, скіраваных 2 студзеня гэтага года паслам Беларусі і Расіі ў ЗША, мэр запатрабаваў, каб Расія і Беларусь адклікалі на радзіму двух сваіх дыпламатаў. Аб усім гэтым паведаміла радыёстанцыя "Голас Амерыкі".

Было гэтае здарэнне вынікам супрацоўніцтва і ўзаемнай каардынацыі палітычнага курсу беларускай і расійскай дыпламатыяў альбо вынікам засваення прадстаўніком нашай краіны ідэяў беларуска-расійскіх салідарнасці і адзінства, не паведаміў ніхто.

**Падрыхтаваў У.П.**

*Згадкі*

**Тамара ФЕДАРЦОВА**

# СУЛАДДЗЕ СПЕЎНАЕ НЯТУСКНАЕ КРАСЫ

*Алесь Салавей (Альфрэд Васільевіч Радзюк) пражыў складанае і суровае жыццё. Нарадзіўся ён 1 студзеня 1922 г. у вёсцы Крысава Дзяржынскага раёна Менскай вобласці ў сям'і служачага. На працягу 1937—38 гг. вучыўся ў Менскім педагагічным вучылішчы. Але ў 1938 г. арыштавалі бацькоў, і вучобу ў педвучылішчы давялося пакінуць. Трэба было клапаціцца пра малодшых братоў і сястру. Каб неяк выжыць у час акупацыі, пайшоў працаваць вярстальшчыкам у "Менскую газэту", затым пісарам ва ўправу гарадскога пасёлка Ілья.*

*Пад час вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў Алесь Салавей, адчуваючы пагрозу расправы з ім савецкіх органаў, з'ехаў у Берлін. Потым нейкі час жыў у Празе і Вене. У 1949 г. выехаў у Аўстралію, дзе працаваў на фабрыцы і займаўся літаратурнай дзейнасцю. Памёр 22 студзеня 1978 г. у Мельбурне. А. Салавей — аўтар кніг паэзіі "Мае песні", "Сіла гневу", "Нятускная краса". На аснове гэтых зборнікаў даследчыца аналізуе паэтычную творчасць А. Салаўя, праводзячы цікавыя паралелі з творчасцю М. Багдановіча.*

Даючы інтэрв'ю Леаніду Пранчаку, вядомая паэтка беларускага замежжа Н. Арсеннева выказалася наступным чынам: "Больш тонкага лірыка, чым Алесь Салавей, у беларускай паэзіі няма. Хіба што Максім Багдановіч". (Мн., Полымя, 1994, "Беларуская Амерыка", стар. 266).

Сапраўды, гэтыя унікальныя постаці, што з'явіліся на літаратурным небасхіле ў розныя часы, эпохі, яднае і родніць многае.

У цэнтры іх творчасці — чалавек і яго лёс, а асноўная тэма — тэма нацыянальнага адраджэння. Шчыра і ўзнёсла гавораць яны пра далёкае мінулае і сучаснасць, імкнуцца зазірнуць у будучыню роднага краю. Арганічна ўплеценыя ў іх творы і вечныя тэмы: жыцця і смерці, прасторы і часу, узаемасувязі воднай, зямной і нябеснай стыхіі, кахання і ростані. Нават ідэя творчага прызначэння ў паэтаў адна — з дапамогай дасканалых кананічных формаў далучыць беларускую літаратуру да еўрапейскай. Абодва яны пішуць санеты, рандо, актавы, трыялеты, тэрцыны, рамансы, падкрэсліваючы гэтым паўнацэннасць, прыгажосць і мілагучнасць роднай мовы, а праз гэта і сцвярджэнне беларусаў як нацыі з высокай матэрыяльнай і духоўнай культурай. Акрамя таго, абодва яны не толькі арыгінальныя паэты, але і выдатныя перакладчыкі з антычнай і сусветнай літаратур.

У вершы М. Багдановіча "Завіруха" самі гукі — нібы ваяўнічы настрой пана Падвея, — ветра, што б'е "ў бубны дахаў", гарцуе з "дзікім хмелем".

А ці не тое ж самае ў вершы А. Салаўя "У мроях"? Шапаценне ветру паэт перадае з дапамогай эскалацыі літары *ш*; яна ўжываецца ў чатырохрадковай страфе 9 разоў:

*І ціха "шу-шу-шу" — калосьсямі шапоча,*
*Палоніць шыр усю нясьціхны шэлест-шум.*

Настальгія па Радзіме кладзе свой найвыразнейшы адбітак на вершаваныя радкі М. Багдановіча і А. Салаўя, таму, увасабляючы вобраз роднага краю, яны ўжываюць адзіны сімвал — кветку васілька.

Пералічваць рысы падабенства двух аўтараў можна доўга. Увесь сакрэт у тым, што А. Салавей, узяўшы за ўзор творчасць М. Багдановіча, прызнаў яго сваім Майстрам і імкнуўся быць вартым яму Вучнем. І, скажам, Алесю Салаўю гэта ўдалося.

І ўсё ж пра адно адметнае адрозненне паміж паэтамі варта сказаць. Максім Багдановіч, які пачынаў свой творчы шлях, не меў перад сабой такіх багатых літаратурных традыцый, на якія мог бы абапірацца, як яго паслядоўнік. А. Салавей меў і самааддана любіў спадчыну самога М. Багдановіча, пра што сведчаць яго шматлікія вершаваныя прысвячэнні Майстру беларускай паэзіі ("Максіму Багдановічу", "На чыстым аркушы", "Максім Багдановіч"). Варта адзначыць і тое, што Вучань развіў закладзеныя яго Настаўнікам эстэтычныя і гуманістычныя прынцыпы паэзіі, застаўся непахісным у імкненні да прыгожага, вытанчанага мастацтва.

Як і Максім Багдановіч, Алесь Салавей быў схільны да ўжывання класічных формаў паэтычнай творчасці. Ён гаварыў: "Класічныя формы — трыялеты, санеты, актавы і іншыя — патрабуюць глыбокай думкі, дысцыпліны слова і вялікай лінгвістычнай культуры. У гэтым закладзены іх вечныя каштоўнасці"[1]).

Значна раней М. Багдановіч у сваіх "Тэрцынах" так вытлумачыў імкненне займацца кананічнымі формамі — рандо і санетам:

*"Як месяц зіхаціць адбітым сьветам,*
*Так вершы ззяюць даўніх форм красой!"[2])—*

сцвярджаў ён.

Вытанчанасць формаў і паэтычнасць мовы, суладдзе вобраза — дэталяў колеру і гуку — адметныя рысы агульнай непаўторнасці і духоўнай лучнасці абодвух паэтаў.

"Гайна" — не толькі першы верш А. Салаўя, але, як адзначае аўтар у сваім "Кароткім жыццяпісе", — усё, што напісана перад ім, не варта, на яго думку, увагі: "Я вельмі шмат вымагаў ад сябе, стараўся стварыць нешта выдатнае і нязвычнае. А гэта не ўдавалася, не хапала сілаў... Усё напісанае і надрукаванае да канца 1939 года я не ўзважаю за паэзію. Гэта былі зусім слабыя і наіўныя літаратурныя спробы", — так успамінаў аб гэтым часе паэт. Але, кінуўшы пісаць вершы, А. Салавей праходзіць сапраўдныя універсітэты самаадукацыі: ён прагна чытае антычную, еўрапейскую, расійскую класіку. З беларускіх паэтаў яму найбліжэй была творчасць М. Багдановіча, аб чым ён не раз прама і ўскосна выказваецца ў тым жа сваім "Кароткім жыцьцяпісе". Зноў за пяро паэт узяўся толькі ў траўні 1941 года, калі адчуў сапраўднае натхненне і на яго прыўзнятай хвалі напісаў свой першы санет "Гайна". Але маладога аўтара спасцігла няўдача: літаратурны часопіс адмовіў яму ў друкаванні санета на дзіўнай і зусім неспадзяванай падставе. Вось як успамінае А. Салавей гэтую падзею: "Я напісаў санет "Гайна". Паслаў яго ў рэдакцыю аднаго часопісу. І неўзабаве атрымаў адказ, што, маўляў, санетаў цяпер ніхто не піша. Даўныя формы даўно ўжо выкінутыя на сьметнік, і іх ніхто ня ўжывае. Я спачатку хацеў узяцца за іншы жанр, але прыгажосць класічных формаў, якія прадаўжаў спатыкаць у літаратуры, загаравалі й захапілі мяне. Парашыў — калі гэтак, дык тады я буду пісаць толькі сам для сябе й нікому напісанага не паказваць і нідзе ня друкаваць..."

Паэт застаецца верным сабе: упарта і самаддана адраджае класічныя формы паэзіі, але нікому сваіх твораў не паказвае: працуе фактычна для шуфлядкі стала. Яго тагачасная паэзія цалкам падмацоўвае сфармуляваны ў "Кароткім жыцьцяпісе" галоўны прынцып: "менш слоў, а больш думак". Сапраўды, літаратурна-паэтычная спадчына А. Салаўя наскрозь прасягнутая стараннем творцы праз вобразнасць мастацкага слова ў кароценькіх вершаваных радках перадаць як мага больш сэнсу, думак і памкненняў.

Цікава і тое, што сюжэты большасці яго вершаваных формаў зводзяцца да апісання звычайных жыццёвых сітуацый. Але не прыходзіць у галаву думка папракнуць яго ў залішняй апісальнасці. Напрыклад, санет "Гайна" пабудаваны на просценькай фабуле: у паэта дзень нарадзін. А ён далёка ад сяброў. Няма побач бацькоў, рэпрэсаваных і высланых у Сібір. Адзінае, што ў яго не ўдалося адняць жорсткаму лёсу, — гэта рэчка Гайна.

*Дзе-ж келіхі? Сябры? Суровы лёс*
*мяне бязь іх у гэты кут занёс.*
*Як ён ні кпіцца нада мной няго жа, —*
*ды ўсё-ж ад Гайны адарваць ня можа!*

І шчыра спачуваеш аўтару, і верш, што адзіная істота, якой на гэты час можа падзяліцца сваімі перажываннямі паэт, — гэта сапраўды рэчка Гайна, якая саграvae сэрца паэта, лечыць яго ад адзіноты і суму:

*Твае лугі і водарная тхень*
*мурожных траў — вось слодыч частаваньня,*
*Усьпень пітво ў берагах, усь пень,*
*двaццаты год мо пойдзе на спатканьне?*

У цэнтры санетаў Багдановіча — заклік да самасвядомасці беларусаў. Алесь Салавей у сваёй тузе па радзіме глыбока суб'ектыўна, як і ў інтымнай лірыцы, замаркочаны, роспачны, ён з'ехаў за горад, дзе

*— салонны вецер ветліцца з травой,*
*гамоніць воддаль водгульнае мора —*

і марыць хоць на момант знайсці супакой, нацешыць душу і вочы прыгажосцю, якой уражвае яго сваім бяздоннем неба — "прытулак сонцу ў дзень, а ў ночы — зорам", захапляецца гульнёй на ім колераў ад празрыста-блакітнага ў вышыні, зеленаватага ніжэй да небасхілу і ўрэшце шызага ў зліцці з морам. Ён з надзеяй звяртаецца да чытача:

*Скажы, хіба ў чароўнасці такой*
*хто-небудзь можа бачыць сум і гора?*

"Санет" М. Багдановіча ("Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі") ведае кожны адукаваны чалавек, і няма неабходнасці падрабязна спыняцца на яго змесце. Скажам толькі, што твор гэты грамадска-палітычнага гучання, і ў ім няма лірычнай інтымнасці А. Салаўя.

Звяртанне да мінуўшчыны, да каранёў сваіх — адна з цэнтральных тэм лірыкі аднаго з лепшых паэтаў беларускага замежжа Алеся Салаўя.

Яскравы прыклад — санет "Лідскае замчышча". Ужо першая страфа яго сведчыць аб вялікай навазе паэта да слаўных дзён незалежнай Беларусі — Вялікага Княства Літоўскага, да дзеяў нашых продкаў, якія здолелі ўвесці Беларусь у еўрапейскую супольнасць, не ўступалі іншым краінам ні ў культуры, ні ў развіцці адукацыі і адукаванасці. У ВКЛ былі найбагацейшыя бібліятэкі, адкрываліся шматлікія школы. Тут быў прыняты "Статут Вялікага Княства Літоўскага", падобнага якому не было ні ў адной еўрапейскай краіне.

Санет варты таго, каб працытаваць яго цалкам:

*З часоў славутых даўнае пары,*
*Як успамін магутны Гэдыміна,*
*Як сьветка гучных дзён мае краіны,*
*стаяць узнёсла замчышча муры*

*Грудзьмі ў баёх адстойваючы чынна*
*зямлі свае і гонар і дары*
*касьцьмі ня раз ляглі за лёс айчыны*
*тут продкі нашыя — асілкі змагары*

*Ня змыла славы іхнай плынь гадоў!*
*Мы, праўнукі — надзейная апора*
*Нязгасных спраў вялікіх змагароў.*

*Нам іхні шлях навекі будзе дораг*
*Хай памятае ўсякай масьці вораг,*
*Што ў нашых жылах — нашых продкаў кроў!*

Гэты санет яшчэ дарагі і тым, што сведчыць пра непрыняцце фашысцкай дыктатуры ("Хай памятае ўсякай масці вораг, што ў нашых жылах — нашых продкаў кроў"). Хаця ў пачатку вайны ў Алеся Салаўя, як, дарэчы, і ў многіх інтэлігентаў, — вязняў сталінскіх Гулагаў, якія выношвалі ідэю нацыянальнага адраджэння, была надзея на палёгку пры новых акупантах. Але паэт вельмі хутка разабраўся ў сапраўдных намерах "вызваліцеляў"-фашыстаў і, працуючы ў беларускамоўных выданнях ваеннага часу, займаецца не палітыкай, а пытаннямі культуры роднай мовы і вывучае гісторыю роднага краю. Праўда, асірочаны тэрорам і незаслужана несучы праз жыццё кляймо "сына ворага народа", ён спачатку таксама думаў, што горш, чым пад Саветамі быць не можа, што пры немцах будзе інакш. У яго нават ёсць некалькі наіўна-аптымістычных нацыянальна-патрыятычных вершаў ("З новым годам", "Пад шэлест лісця"). Але ўжо ў вершы "Маладэчна", напісаным 10 верасня 1942 года ў Рызе, дзе паэт працаваў намеснікам рэдактара часопіса "Новы шлях", адчуваецца рэзкі паварот ад наіўнага аптымізму да жорсткай рэчаіснасці. Ён бачыць знішчэнне, гора, калецтва, нястачу — усё, што нясе любая вайна людзям. І піша:

*Чую болесць я ранаў тваіх.*
*І ня грэе... Мы зьнеслі ня гэта,*
*Прыйдзе час — дык загоім і іх.*

Строфы паэмы "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса", напісаныя ў санетнай форме, паказваюць, што тут Алесь Салавей выступае як наватар, як першатворца. Гэты твор можна лічыць у некаторай ступені аўтабіяграфічным. Паэт успамінае родныя мясціны, сваё дзяцінства. Але ў ім завастраюцца публіцыстычна-грамадзянскія погляды на падзеі таго часу. Адкрыта і шчыра (чаго ў той час не сустрэнеш у творчасці савецкіх літаратараў) А. Салавей гаворыць аб разгуле сталінскіх рэпрэсій і тэрoры:

*Бы град, людскія голавы далоў*
*крывавая сыпнула завіруха.*
*Нямала ейны меч злажыў галоў,*
*і чалавек ёй кажны быў — што муха.*
*Муку жуды сьмяротны млын малоў...*

Гаворыць ён і аб уласных перажываннях той пары:

*Тады я страціў бацьку, страціў маці.*
*Я быў зь дзяцей старэйшым — меў тады*
*пятнаццаць год. Са мной — шчэ трое ў хаце —*
*сястра, браты... Ні хлеба, ні вады...*

Няўсцішна баліць сэрца паэта і зараз. Бо ідзе вайна, 1943 год:

*Якой-жа бачу, я зямлю тваю*
*цяпер, мой Край? Яна — уся на ранах.*

Чужынец (манголец), "нікім, нікім ня прошаны, ня званы", акрываваў айчыну, "нішчыць гвалтам нястрыманым" усё яе хараство. Паэт гатовы выйсці на змаганне, але толькі за вольную Беларусь і ад фашыстаў, і ад расійцаў, і ад палякаў. Ён верыць, што "без чужое ласкі — сам Крывіч гаспадаром здалее быць над Краем".

Ці не сугучна гэтае жаданне бачыць самастойнай, вольнай сваю краіну з жаданнем М. Багдановіча? Той жа пафас, тая ж ідэйная напоўненасць і патрабаванне актыўнага служэння роднаму краю, адраджэнню яго духоўнасці...

---

*[1]) Тут і далей вершы А. Салаўя цытуюцца па кнізе: А. Салавей. Нятускная краса. Збор твораў. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва. Нью-Еорк-Мэльбурн, 1982, с. 11 (пераклад з анг. аўт.).*

*[2]) М. Багдановіч. Вянок. Вільня. 1931. Стар. 98.*



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

Беларускае адраджэнне

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# “Сініма славенароская” як падмурак сучаснай лексікаграфічнай традыцыі

У “Сініміме славенароскай” пачынаюць выпрацоўвацца новыя прынцыпы перакладу слоў, якія выкарыстоўваюцца лексікографамі да нашых часоў.

Старабеларуская лексема перакладаецца толькі адным словам, калі для перадачы значэння яе ёсць адэкватнае старарускае слова (грузкость — тина; жадаю — желаю; жебракъ — нищий; дзякую — благодарю). Пры наяўнасці двух і больш адпаведнікаў тлумачальныя адзінкі падаюцца ў паслядоўнасці ад больш блізкай па значэнні і больш шырокай па ўжыванні да менш блізкай па значэнні і больш вузкай па ўжыванні (годность, достояние, достоинство; досведчаюсь, навыцаю, навыкаю; дужій, доблестный, твёрдый, крепкий, сильный, храбрый, ратный...)

У рэестравай уласнабеларускай частцы слоўніка прысутнічае пэўны элемент пазычанняў, фонамарфалагічная структура якіх пераўтвораная ў адпаведнасці з мовай-успрымальніцай і не выглядае неарганічнай: сакрамент — тайна, тыран — мучитель, томитель; тестамент — завет; трафляюс — ключаюс, приключаюся, трибунал — судище, судилище; секретарь — тайник; силлоизм — противоположение, противоречие, умышление, смышление, недоумение; силляба — слог.

Усё вышэйзгаданае сведчыць пра тое, што ў XVI—XVII стагоддзях старая беларуская мова сфармавалася ў сваіх структурна-сістэмных і стылявых ярусах і ўсведамлялася як носьбітамі яе, так і іншымі народамі як высокаразвітая і надзвычай дасканалая мова. Канчаткова акрэсліліся яе артыкуляцыйная база, прасадычна-акцэнталагічная, фанетыка-фаналагічная і марфолага-сінтаксічныя сістэмы. Адным словам, старабеларуская мова ў тыя часы значна адрознівалася ад суседніх старапольскай і старарускай, у выніку і ўзнікла неабходнасць у перакладзе з яе на гэтыя блізкароднасныя мовы.

Такім чынам, “Сініміма славенароская”, як “Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста” і “Лексіс” Л.Зізанія, пацвярджаюць думку даследнікаў, што старабеларускай мовай карысталіся і на Беларусі, і ў Летуве, і на Украіне, але, нягледзячы на гэта, яна, паводле вызначэння Я.Ф.Карскага, характарызуецца структурным і матэрыяльным адзінствам незалежна ад тэрыторыі свайго распаўсюджвання.

“Сініміма славенароская”, якая задавальняла шырока ўзрослыя патрэбы перакладу з старабеларускай на суседнія мовы, “Граматыка славенская”, напісаная на лаціне для азнаямлення з айчыннай мовай народаў Еўропы, і іншыя старабеларускія помнікі яскрава сведчаць пра стан высокага росквіту беларускай літаратурнай мовы ў перыяд яе “залатога веку”, напярэдадні забароны польскім сеймам у 1696 годзе.

*Мікалай Крыўко*

# Слоўнік сінонімаў

**ПРАЙСЦІСЯ** і (рэдка) **ПРАЙСЦІ** размоўнае (рукой, пальцамі: правесці хуткім рухам па чым-н.). *Калі Даніла пайшоў, Сымон узяў гармонік. Прайшоў пальцамі па клавішах, не расцягваючы мех* (Чарнышэвіч), **ПРАБЕГЧЫСЯ** і **ПРАБЕГЧЫ** (вельмі хуткім рухам правесці па чым-н.) *Дрыжачымі рукамі прабег ён [Хахлоўскі] па струнах і ад хвалявання закружылася галава* (Міжэвіч).

**ПРАКАЖОНЫ** (чалавек, хворы на праказу) *Каб засцерагчы навакольных ад гэтай заразы, пракажоных ужо даўно пачалі ізаляваць у асобых калоніях — лепразорыях (ад лацінскага “лепра”, г. зн. праказа), дзе яны павінны жыць усё сваё жыццё* (Шарыкаў), **ЛЕПРОЗНЫ** *Ізалятар для лепрозных.*

**ПРАКАЗА** (цяжкая хранічная інфекцыйная хвароба, якая суправаджаецца паражэннем скуры, мышцаў, унутраных органаў) *З трахомаю, з праказаю Калекі ўсё ідуць* (Панчанка), **ЛЕПРА** медыцынскае.

**ПРАКАРМІЦЦА** (пражыць, маючы ежу ў патрэбнай колькасці) [*Галя*]: — *На адной стыпендыі... не вельмі параскашуешся, а мне ж трэба не толькі пракарміцца, але і апрануцца* (Сабаленка), **ПРАХАРЧАВАЦЦА** [Сяргей]: — *Ты магла спакойна перачакаць бяду дзенебудзь у вёсцы, у добрай цёткі. Памагала б ёй і як-ніяк прахарчавалася б* (Няхай). — *Незакончанае трыванне:* **Пракормлівацца, прахарчоўвацца.**

**ПРАКАРМІЦЬ** (забяспечыць каго-н. ежай, кормам у патрэбнай колькасці для пражыцця) *Сена далей ад дарог стагаваць трэба. Немцы адступаць будуць, дык са злосці чаго не зробяць. А такі статак пракарміць не жартачкі* (Асіпенка), **ПРАХАРЧАВАЦЬ** [*Хлопчык*] *наймаўся ў батракі, толькі б прахарчаваць сябе* (“Маладосць”). — *Незак.:* **Пракормліваць, прахарчоўваць.**

**ПРАКАЦІЦЬ** (правезці каго-н., каб зрабіць прыемнасць)— *Я думала, што ты пракоціш мяне полем на добрым кані і на добрай брычцы, ці як там у вас, а ты — на табе — на машыне прыехаў* (Хадкевіч), **ПРАКАТАЦЬ** — *Дзядзечкі! Пракатайце! — чуюцца праз шум матора воклічы дзяцей* (Гамолка). — *Незак.:* **Пракатваць.**

**ПРАКЛАСЦІ** (дарогу, сцежку і пад.: частай хадзьбой або яздой прарабіць, утварыць) *За горадам не было дарогі. Ён, Язэп Каліна, першы павінен быў пракласці след* (Асіпенка), **ПРАЛАЖЫЦЬ** *Калі зноў пачыналася ўзгор’е, пры заломе сценкі, улева, жытамі, сілцоўскія людзі пралажылі вузкую, беленькую сцяжынку, нацянькі, як аднаму прайсці* (Гартны). *Дзед паказаў мне “шнурок”, які толькі што пралажыў ліс* (Мыслівец), **ПРАТАПТАЦЬ** *І хоць даўно пазарасталі ўжо тыя сцежкі, якія пратаптаў, бегаючы ў дуброву Піліпа Часнача, каб паглядзець на разьбу лесніка, а казачны. дзівосны той куток маленства жыве ў сэрцы мастака* (Бялевіч). — *Незак.:* **Пракладаць і пракладваць, пратоптваць.**

1\. **ПРАКЛЁН** (лаянкавае слова, абурэнне) *Але Базыль, не зважаючы на лаянку і праклёны жонкі, хутка прапаў у чорных дзвярах сянец...* (Нікановіч), **КЛЯЦЬБА** *У суседак злых смяротнаю кляцьбой было: “Каб ты па Месяцу хадзіла!”* (Барадулін), **КЛЕНІЧЫ** адзіночнага няма; разм. *Дзед кляў лысага чыноўніка ўсімі кленічамі, якія толькі ведаў* (Якімовіч).

2\. **ПРАКЛЁН** (крайняе асуджэнне, якое суправаджаецца злавесным прадраканнем, пажаданнем) — *Праклён вайне! — вось што ён [Томас] сказаў* (Васілёнак), **ПРАКЛЯЦЦЕ** — *Праклятце лютым катам ад мяне, Ад жонкі партызана перадай* (Танк).

Ствараем энцыклапедыю “Новай зямлі”

# Суседскія пераклады

(*Працяг.*)

Значныя скарачэнні тэксту паэмы “Новая зямля” для першага маскоўскага выдання, пэўна ж, не маглі задаволіць ні аўтара, ні С.Гарадзецкага. Перакладчык меў намер у будучым зрабіць поўны пераклад паэмы. Верагодныя дадаткі да запланаванага аб’ёму “Новай зямлі” абмяркоўваліся пад час траўневай 1933 года гасціны С.Гарадзецкага ў Якуба Коласа. І неўзабаве, пасля вяртання перакладчыка ў Маскву, ён паведаміў аўтару, што дазволілі ўключыць у выданне яшчэ пяцьсот радкоў.

“Новая зямля” нарэшце была перададзеная ў выдавецтва. Але там не рупіліся здаваць яе ў набор. У верасні таго ж года Якуб Колас быў у Маскве і сам зайшоў у выдавецтва “Савецкая літаратура”. Знаёмыя пахвалілі прадмову С.Гарадзецкага і паведамілі, што пераклад аддадзены камусьці на прагляд. Як пісаў сам Якуб Колас сябру, ад таго наведвання засталося ўражанне, што “ў поглядах на друкаванне маёй паэмы ў рускім перакладзе нібы адбылася перамена, і з друкаваннем яе не спяшаюцца, як не спяшаюцца выдаваць яе і тут на беларускай мове”.

Неабходна нагадаць, што Якуб Колас у лістах да С.Гарадзецкага некалькі разоў звяртаў увагу перакладчыка на эпоху, у якую жыў Міхал, тлумачыў імкненні і паводзіны галоўнага героя, абумоўленыя ягоным сацыяльным станам. На гэта неабходна было акцэнтаваць увагу, бо ў той час, калі ішла калектывізацыя, імкненне да ўласнай зямлі ўспрымалася як варожая прапаганда. С.Гарадзецкаму ўдалося згладзіць такія супярэчанні, і паэма “Новая зямля” ў ягоным перакладзе ўбачыла свет у снежні 1933 года.

Цікавасць маскоўскіх творцаў да паэзіі ды прозы нашага класіка не зніжалася нават у тыя жудасныя трыццатыя гады. Пераклалі ягоную “Дрыгву”, кампазітар В.А.Гайгерава напісала музыку да некалькіх Коласавых вершаў і намерылася стварыць оперу “Сымон-музыка”, “Мурзілка” надрукаваў пераклад “Савося-распусніка”, Дзяржаўнае выдавецтва мастацкай літаратуры (ГИХЛ) падрыхтавала зборнік вершаў Якуба Коласа “Избранные стихи”, які выйшаў у снежні 1935 года. Нават некалькі гэтых прыкладаў сама перш сведчаць пра агульнае прызнанне таленту нашага народнага песняра, значнасці і гуманістычнай важнасці ягоных твораў.

Маскоўскае выданне “Новай зямлі” сталася дарагім падарункам для беларусаў, што жылі далёка ад Бацькаўшчыны. Ад іх пасыпаліся лісты. Адзін з землякоў, што жыў у Саратаўскай вобласці, які, відаць, сачыў за творчасцю Якуба Коласа і ведаў нават стан ягонага здароўя, прапанаваў шаноўнаму аўтару прысылаць кумысу.

Гэтае выданне спрычынілася і да папулярызацыі самой паэмы ў пісьменніцкім асяроддзі. Вядомы крытык, літаратуразнаўца і перакладчык Яўген Мазалькоў прасіў Якуба Коласа парады пра пераклад “Новай зямлі”. Сваё прачытанне знакамітай паэмы намерыліся даць Міхаіл Ісакоўскі, а таксама вядомы паэт і перакладчык Пётр Сямынін. Менавіта з гэтым шчырым і самаадданым сябрам звязаная адна з самых цікавых, вартасных падзей беларуска-расійскіх літаратурных сувязяў.

(*Працяг будзе.*)

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*Культура мовы*

*Уладзімір СОДАЛЬ*

# Вялікая літара

Даўно заўважыў: у нашай моўнай практыцы да гэтай пары не ўсталявалася аднастайнае напісанне назваў вёсак, мястэчак, гарадоў, розных іншых мясцінаў, назовы якіх складаюцца з двух словаў. Пішам: Стары Двор і Стары двор, Зялёны Луг і Зялёны луг, Чырвоная Слабада і Чырвоная слабада, Добрая Воля і Добрая воля, Лысая Гара і Лысая гара, Залатая Горка і Залатая горка, Астрашыцкі Гарадок і Астрашыцкі гарадок, Мар’іна Горка і Мар’іна горка, Новая Бель і Новая бель...

Вось прыклад з надрукаванага: “В этот же день Премьер Китая посетил Семков городок” (“7 дней”, 24.06.95 г.). “Трое школьников в городском поселке Сосновый бор... Нашли спички”. (“Фемида”, 14.09.92). Ці яшчэ адзін невялікі, але вельмі яскравы прыклад з кнігі “На суд гісторыі”, выдадзенай у 1994 годзе “Мастацкай літаратурай”: “ — Ну, вось вам і Лысая Гара! — сказаў Янка Купала.

— Лысая Гара?! — здзіўлена-пытальна глянула я на Купаліху.

— Але ж, — адказала яна кіўком галавы”.

Як бачым, у асноўным тэксце ў згаданай назве абодва словы напісаныя з вялікай літары. З вялікай літары яны пададзеныя і ў загалоўках, але ў змесце кніжкі ўжо маем зусім іншае напісанне, а менавіта: “Лысая гара”.

Не ўсталявалася да гэтай пары напісанне і назваў розных выданняў, якія таксама складаюцца з двух слоў. Пішам: “Наша Ніва” і “Наша ніва”, “Наша Доля” і “Наша доля”, “Беларуская Думка” і “Беларуская думка”.

Згадаю яшчэ некалькі прыкладаў з нашай моўнай практыкі. У кнізе Янкі Багдановіча “На жыццёвым шляху” (Мастацкая літаратура, 1992 г.) пададзеныя назвы газет, часопісаў, кніг з двух слоў — абодва словы напісаныя з вялікай літары. “Нягледзячы на ўсе перашкоды, друкаваліся ў Беларускай друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні наступныя газеты і часопісы: “Беларуская Крыніца”, “Сялянская Ніва”, “Хрысціянская Думка”, “Калоссе”, “Шлях Моладзі”, “Самапомач”, “Зоркі” і многа, многа іншых...” “Да прагрэсіўных беларускіх газет і часопісаў у кніжцы залічаны: “Беларуская Справа”, “Родны Край”, “Сялянская Ніва”, “Калоссе” — літаратурна-навуковы часопіс “Беларуская Ніва”, “Шлях Моладзі”, “Літаратурная Старонка”, “Заходняя Беларусь” (зборнік), “Родныя Гоні”...

Але ўжо ў “Кароткім біяграфічным паказальніку” гэты прынцып не вытрыманы. Маем: “Незалежная Думка”, “Новая Дарога”, “Беларуская Крыніца”, “25 Сакавіка”, “Шляхам Жыцця”, але “Беларуская газэта”, “Жаночая справа”, "Шлях моладзі”.

У кнізе твораў Ядвігіна Ш. (Мн. 1968 г) на адной і той жа сёмай старонцы, у прадмове сучаснага аўтара чытаем “Наша Ніва”, а вось ужо ў назве “Нашай Долі” другое слова напісана, надрукавана з малой літары — “Наша доля”.

Самі нашаніўцы абодва словы назвы сваёй газеты і кніг Мацея Бурачка пісалі з вялікай літары — “Наша Ніва”, “Наша Доля”. І ў іншых назвах беларускіх выданняў той ці блізкай пары. Вось радок з пісьмовай практыкі Антона Луцкевіча: “Ён раздаваў ваеннапалонным прайшоўшыя праз цэнзуру часопісы “Беларуская Думка” і “Беларускае Жыццё”. (З артыкула “Адукацыя Беларусі”, Вільня, 1920).

Зоська Верас, скажам, і ў назвах асветніцкіх установаў, гуртоў, суполак, згуртаванняў абодва словы ў састаўных назвах пісала з вялікай літары, прыкладам, “Беларуская Хатка”. І лічыла гэткае напісанне годным сутнасці такіх назваў. І цяжка з ёй не пагадзіцца.

То чаму ж нам не ўважыць ранейшую традыцыю? Чаму не падтрымаць? Гэта ж зусім нескладана, няцяжка. Руку сваю мы, паверце, не ператомім, не перасілім, калі і другое слова ў двухслоўных назвах будзем пісаць з вялікай літары. Такое напісанне і эстэтычна неяк інакш глядзіцца, і зрокава запамінаецца. У ім і павага і да традыцыі, і да людзей, што стварылі гэтыя выданні. То што нам замінае гэтага трымацца? Лічы, анічога... Толькі трэба дамовіцца. Здаецца, моўная практыка іншых краін якраз трымаецца такога прынцыпу.

Якімі ж меркаваннямі кіруемся мы, калі другое слова ў двухслоўных назвах пішам з малой літары? Ці ведаем?

Аднаго разу я пацікавіўся ў выдавецкіх рэдактараў, карэктараў, чым яны кіруюцца, калі абіраюць форму напісання двухслоўных назваў?

Адказ быў такі: за ўзор бяром энцыклапедычныя выданні. А там у назвах тыпу “Наша Ніва”, “Наша Доля”, “Дудка Беларуская” другое слова прынята пісаць з малой літары.

Вось, здаецца, і ўвесь мой дослед з нагоды напісання вялікай і малой літары ў двухслоўных назвах. Можа, хто іншы пра гэта скажа больш і з большым абгрунтаваннем. То, калі ласка!

## Спорт

### Футбол

22 студзеня ў Магілёве пачнецца міжнародны турнір, удзел у якім прымуць мясцовыя каманды "Дняпро", "Тарпеда-Кадзіна", "Трансмаш", а таксама "Маладзечна", "Гомель" і расійскае "Дынама" (Бранск). Каманды падзеленыя на дзве падгрупы. У першую ўвайшлі "Трансмаш", "Тарпеда-Кадзіна" і "Маладзечна", у другую — астатнія.

На зборы ў Славакію накіравалася бабруйская каманда "Белшына", разам з ёй і група навічкоў клуба. Бабруйчане размесціліся ў маляўнічым мястэчку Пяшчаны ў 80 кіламетрах ад Браціславы, дзе беларускія хлопцы плануюць правесці 5 кантрольных сустрэч, а 25 студзеня вернуцца дадому.

Абаронца менскай каманды "Дынама-93" Андрэй Шыла ўрэшце прыняў рашэнне перайсці ў клуб "Дынама". Таксама на праглядзе ў Менскім клубе знаходзяцца два гульцы берасцейскага "Дынама": брамнік Дзмітрый Якімаў і нападаючы Юрый Лагодзіч. Апошні, дарэчы, гуляў за сталічную каманду ў мінулым годзе, але быў вымушаны вярнуцца ў Бярэсце, дзе ў яго падпісаны кантракт да ліпеня 1997 года.

Высветлілася сітуацыя наконт абаронца Аляксандра Лухвіча, якога жадаюць атрымаць расійскія каманды "КамАЗ" і "Крылья Советов", прадстаўнікі якіх ужо звязваліся з кіраўніцтвам клуба, дзе гуляе Аляксандр. Прызначаная вельмі паважная адкупная, і цяпер расійцы ў роздуме. Па словах самога Лухвіча, асаблівага жадання пакідаць Менск у яго няма.

З добрымі вынікамі накіравалася на зімовыя вакацыі беларуская маладзёжная футбольная зборная. Каманда з 10 ачкамі ўпэўнена лідзіруе ў 4-й адборачнай маладзёжнага чэмпіянату Еўропы. У суседніх падгрупах па 10 ачкоў набралі таксама каманды Ізраіля і Іспаніі. У чацвёртай групе следам за нашай зборнай ідуць каманды Швецыі, Аўстрыі, Шатландыі, Латвіі і Эстоніі.

### Хакей

У рамках чэмпіянату Еўрапейскай хакейнай лігі 8 студзеня менская "Цівалі" сустрэлася з польскай камандай "Алімпія". І хаця палякі выступалі ў паслабленым складзе (12 асноўных хакеістаў засталіся ў Польшчы), беларускія хлопцы ў чыстую — 11:0 разграмілі сваіх супернікаў. У менскай дружыне лепшымі былі Андрыеўскі, Манахаў, Мікольчык, якія закінулі па некалькі шайбаў, а таксама стварылі галявыя сітуацыі. У гэтым матчы ў складзе "Цівалі" дэбютаваў 16-гадовы брамнік Сяргей Грэк.

### Гандбол

Менская маладзёжная каманда "Аркатрон" правяла пераможнае турнэ па гарадах Германіі. Спачатку менскія юнакі гулялі ў маладзёжным турніры зборных каманд у горадзе Саакбрукен. Беларусы згулялі ў нічыю са зборнай Германіі 19:19, перамаглі Польшчу — 25:19, Ісландыю — 28:19. У паўфінале беларуская каманда разграміла зборную Францыі — 22:21 і толькі ў фінале саступіла немцам — 20:37. Далей беларуская дружына правяла 8 таварыскіх матчаў з рознымі германскімі і славацкімі клубамі, у 6 з якіх нанесла паразу супернікам.



"След чорнага ветру" — так называецца зборнік сачыненняў беларускіх школьнікаў, напісаных на чарнобыльскую тэму. У кнізе надрукаваны і твор Алены Кавенка з Рэчыцы.
**На здымку: Алена Кавенка (справа) з сваёй сяброўкай Тацянай Майсеенка ды бібліятэкаркай Галінай Асіпенка.**
**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

*У старых фаліянтах*

## Нібы пра сённяшняе

Да мяне на рэстаўрацыю трапіў гумарыстычны часопіс "Маланка", № 14, верасень 1926 года. Пакуль рэстаўрыраваў — чытаў. Як дзіўна падобныя праблемы беларуса ў 1926 г. на сённяшнія нашыя! Не верыце? То чытайце самі.

***"Кутнія навіны.***

Кажуць, што "беларускія" сэнатары Багдановіч і Назарэўскі ўжо навучыліся тры словы па-беларуску і пішуць свае сэнатарскія мэмуары "О глупости белорусского народа".

**Каментарый-пытальнік**: Дык ці паразумнелі мы ажно за 70 гадоў і якім будзе жыццё нашых дзяцей і нашых унукаў?

"Кажуць, што Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры маніцца ў хуткім часе змяніць свой назоў на: "Беларускі Інстытут Гаспадаркі, Абяцанак і Культуры".

**Каментарый:** А тут і без каментарыяў усё ясна: "Абяцанка-цацанка, а дурному — радасць". У 1926 годзе беларусы толькі "марылі" аб "Інстытуце... Абяцанак", а цяперака куды сiганулі!

***"Афарызм часу.***

Хітры мудрага пытаўся:
— Нашто розум здаўся?
Дык тут мудры ня стрымаўся,
Гэтак адазваўся:
— Розум сёньня дачакаўся,
Што на сьметнік здаўся...
Мудры з галаду ўмірае,
А ўсё хітры мае.

Г.Л."

***"Наша пошта.***

Паведамляем паважаных нашых падпісчыкаў, што №№ 1 і 2 "Маланкі" хутка разышліся, а дзеля таго не хапіла іх некаторым пазьнейшым падпісчыкам, за што Рэдакцыя просіць прабачэньня. №№ 3 і 5 канфіскованы ўладай і высланы быць ня могуць".

\+ + +

Думка ў думку, дружна, сьмела
Усе наперад грамадой!
Кожны ведай свае дзела
Знай за праўду крэпка стой!
К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе Млечны шлях,

Слова, дум ніхто ня зьвяжа,
Жыць, цярпець ня будзе страх!
І ня стане больш пакуса
Першых лепшых збоку браць

Селяніна-беларуса
Вечна ў лапці абуваць.

Янка Купала."

**Выпісаў Міхась ВЕРАЦІЛА.**

## І смех і грэх

## Рамельскія абразкі

### "Перліны" красамоўства

Пільнуюся ў сельмагу чаргі. Раптам прарэзліва і патрабавальна звоніць тэлефон. Прадаўшчыца здымае трубку і, ледзь не па-грыбаедаўску, "с чувством, с толком, с расстановкой" прамаўляе:

— Ну..! Я... Е..!

— "Ну яе!" — самахоць міжвольна падкарэкціравалася гандлярская абракадабра.

### Папаусы

— Што вам вядома пра папуасаў? — пытаецца настаўнік геаграфіі. "Дасведчаны" вучань з "камчаткі" азадачыў клас:

— Папаусы жывуць на астравах Ціхага акіяна. Папаусаў вывучалі знакаміты рускі падарожнік Мікалай Міклуха-Маклай і не менш славуты англічанін Джэймс Кук. Апошні так ім быў даспадобы, што, як спяваў Уладзімір Высоцкі, папаусы "замест кока з'елі Кука".

### Твар

— Памый рукі, твар ды садзіся есці,— паклікала бабуля да стала ўнука, якога ёй прывезлі на лета з Белакаменнай. Сама ж накіравалася палоць градкі. Вярнуўшыся праз гадзіну, вельмі здзівілася, убачыўшы на стале некрануты астылы сняданак. На ложку, скурчыўшыся, ляжаў зарумзаны любы ўнучак.

— А Божачка, мо захварэў, дзіцятка? — спалохана залементавала старая.

— Не буду есці, я не тва - тва - тварь,— захліпаючыся плачам, мовіў пакрыўджана малы і глыбей зашыўся з галавой пад коўдру.

### "Искусственничек?"

У даяркі захварэла немаўлятка. Дабралася маладзіца да гарадской бальніцы:

— Дохтурка, даражэнькі, ратуйце сыночка!

— Гм, гм, гм,— пасля агляду гмыкае лекар і пытае: "Искусственничек, наверно?"

— Не-не, што вы!— апраўдваецца маладая маці,— мы з Міколам разам, удваіх, так над ім шчыравалі...

### Спрытнюгі

У Маскву на злёт ударнікаў працы паехала наша даярка. У вулічнай цісканіне "джэнтльмены ўдачы" сцягнулі ў яе кашалёк з грашыма. Узлаваная дэлегатка з-за трыбуны мовіла так:

Дарагія масквічы!
Якія ж вы лаўкачы?!
Не пакінулі грошай і пятака, —
Дулю вам дам, а не малака!

**Леанід РАМАНЕНКА.**

*Сяргей Папар*

## Воўк і ліс

На звяроў наводзіць глянец
рыначны сацыялізм
Воўк наш — вегетарыянец!
У яго ў хаўрусе — ліс.

Прадалі скіўіцы ў Штаты
на запчасткі мяснікам.
—Хутка возьмемся за шаты:
не шкада і шкуры нам.

Будзе лёгка і прынадна
уз'яднацца з каралём;
дзеля міру мы і з НАТА
буська ў буську зажывём.

..................................

Як прыціснулі марозы,—
Воўк і ліс клыкамі — цок
Злева — з ЦРУ пагроза,
справа ў іх — цюменьскі цмок.

— Згаснем — вып'юць нашу
кроўку,—
з воўкам зашаптаўся ліс.—
Пойдзем лепш на Камароўку,
ў рыначны сацыялізм.

## Пачутае "У Лявона"

### Важны госць

Лёля запрашае сяброўку ў госці. Тая пытаецца:

— А ці будзе Алесь Клаўдзіевіч?

— Не! З ім адна нудота.

— Але як ажывае ўся кампанія, калі ён адыходзіць!

### Мала марозу

Адміністратар гасцям:

— Прабачце, даражэнькія, што ў нашым шынку такая халадэча. Эканомім... Нават халадзільнікі адключылі, паадчынялі — размарожваем.

На гэта госць:

— Мала марозу, дык вы яшчэ лядоўнямі шынок выстуджваеце.

### Эканаміст

Адміністратар маладому афіцыянту:

— Падыдзі да эканаміста...

— ???

— Ну, да таго мужчыны, што за трэцім столікам.

— А як Вы пазналі яго прафесію?

— У спісе страў ён чытае толькі цэны.

### Каб адзін на дваіх

Аптыміст разважае:

— Як у чалавеку ўсё дапасаванае — дасканала прадумана: двое ног, рук, вачэй, вушэй, але адно горла...

А песіміст дадае:

— А каб яшчэ ды адзін язык на дваіх! Як бы спакайней на свеце было!

### Берагавая лінія

— Падумаць толькі: тры чвэрткі чалавечага цела — вадкасць!

— Калі гэта так, і наша Лёля, нібы мора, сапраўды складаецца з вады, то мушу прызнаць, што берагавую лінію мае цудоўную!

### Пераблыталі

Бывалец шынка звяртаецца да адной госці:

— Шаноўная, ці чула спадарыня, што жартаўнікі параўноўваюць сужонства з кінематографам: мужчына піша сцэнар, выбірае галоўную гераіню, ставіць дэкарацыі...

— Яны ўсё пераблыталі! Мужчына — прадзюсер, ён толькі плаціць за ўсё!

### Лёс?

Госць шынка:

— Што ні кажы, гараваць будзем — такі ўжо наш лёс!

Ды з ім не пагадзіўся сябра:

— Не спіхвайце на лёс віну дурняў!

**Учуў З.С.**

## Даты і падзеі ў студзені

**16** — 81 год таму нямецкі фельдмаршал фон Гіндэнбург выдаў загад пра ўжыванне ў грамадскім, культурным, асветным і адміністрацыйным жыцці беларускай мовы. У загадзе падкрэслівалася, што "беларуская мова як адменная ад расійскай дапускаецца да ўжытку без аніякіх перашкодаў". У нямецкі штаб быў прызначаны перакладчык-беларус, які перакладаў загады, што тычыліся беларусаў, з нямецкай мовы на родную.

**17** — 360 гадоў таму ў друкарні Куцейненскага манастыра была выдадзеная кніга епіскапа мсціслаўскага, аршанскага і магілёўскага айца Сільвестра Косава "Дидаскалия альбо наука, котораяся первей из уст священником подавала о седми сакраментах ал боли тайнах..."

— 330 гадоў таму быхаўскі мешчанін Івашка Данілаў "бил челом" цару Аляксею Міхайлавічу, каб той дазволіў яму перабрацца — злучыцца з роднымі: "вели, государь, меня с женишкою и з детишками из Воскресенского монастыря взять к Москве к сродичам моим и животишко мой отдать".

— 80 гадоў з дня нараджэння мастака Антона Бархаткова.

**18** — 145 гадоў таму Уладзіслаў Сыракомля (Людвіг Кандратовіч) напісаў верш "Лірнік вясковы". Яго назва сталася другім псеўданімам паэта, ганаровым тытулам, які прызналі яму шматлікія прыхільнікі ў Беларусі.

— 50 гадоў таму ў Лондане адбыўся першы з'езд згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі.

— 55 гадоў таму ў Казані адбыўся радыёмітынг прадстаўнікоў беларускага народа, на якім выступіў і Янка Купала. Таго ж дня ў Маскве быў наладжаны падобны антыфашысцкі мітынг.

— 115 гадоў з дня нараджэння архітэктара Іосіфа Лангабарда, прафесара, доктара архітэктуры, заслужанага дзеяча мастацтва Беларусі, аўтара манументальных гмахаў у Менску: Дома ўрада, акруговага Дома афіцэраў, Беларускага тэатра оперы і балета.

**19** — 479 гадоў таму Францішак Скарына скончыў друкаваць "Кнігу прамудрасці Боскай".

— 200 гадоў таму (1797) на беларускіх землях, далучаных да Расійскай імперыі, пачалі перарабляць медыцынскія ўстановы, перакройваць усю сістэму медыцынскай дапамогі. Быў выдадзены ўказ аб стварэнні губернскіх лекарскіх управаў.

**20** — 135 гадоў таму (1862) генерал-губернатар Назімаў пісаў у сваім лісце, што падзеі вызваленчага руху ў Ковенскай, Віленскай і Гарадзенскай губернях прымушаюць яго "выдаляць з краю людзей нядобранамераных,.. каб прадухіліць распаўсюджванне шкодных падбухторванняў".

— 75 гадоў таму (1922) памёр Еўдакім Раманаў, этнограф, фальклярыст, археолаг. Вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, апублікаваў больш за 200 навуковых прац, больш за 10 тыс. фальклорных твораў. Асноўная ягоная праца — "Беларускі зборнік" (выпускі 1—9, 1886—1912) — своеасаблівая энцыклапедыя побыту і культуры нашага народа дарэвалюцыйнага часу.

**21**— 90 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Міколы Садковіча.

***Да 150-годдзя з дня нараджэння Якуба Наркевіча-Ёдкі***

— 105 гадоў таму на пасяджэнні Метэаралагічнай камісіі знакаміты даследнік, канструктар прыбора — правобраза першага радыёпрыёмніка Якуб Наркевіч-Ёдка паведаміў пра сваё назіранне атмасфернай электрычнасці з дапамогай пераноснага электраметра.

**Падрыхтаваў З.С.**

*Пры перадруку спасылка на NS абавязковая*

Наша Слова (3)

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 59 Наклад 2292 паасобнікі.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана ў друк 15. 01. 1997 у 15 гадзін.